


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 МАЯ 1999г. № 20/4000 КОШТ 15 000 РУБ.








Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Уся сілы на...

Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ...

НА РУБЯЖАХ СЯМІГОДКІ

№ 51 (2000) 25 чэрвеня 1965 г. ПЯТНІЦА

АД КАМІТЭТА ПА ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЯХ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

Наро... ПЕТР...

СЛОВ... ПРЫЗНА... І ЛЮБ...

4000

ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР | Цана 50 кап.

№ 37 (1000) | Субота, 11 верасня 1954 года | ДА ТРЭЦЯГ...

Трэці з'езд пісьменнікаў Совецкай Беларусі

Пісьменнік і рэдактар

## Санет тыднёвіку "ЛіМ"

*З любоўю і з удзячнасцю нязменнай*
*За ўсё, чым стаўся ты ў жыцці маім,*
*Я крок у крок іду з табою, "ЛіМ", —*
*Ад першае вясны пасляваеннай.*

*За шчасце мне было ў наш век сіберны,*
*Калі душой я адчуваў, што "ЛіМ"*
*Мне падае руку, як пабрацім,*
*Надзейны сябар і паплечнік верны.*

*Так, клопат твой, падтрымку і падмогу,*
*Нялепшым часам выйшаўшы ў дарогу,*
*Я зведаў, зведаў! Ды ці ж толькі я?*

*Іх сотні сот, хто хоць аднойчы сэрцам*
*Пацалаваў цябе — з гарачым шэптам:*
*"Ты — ёсць, ты — вось, о Беларусь мая!.."*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

1999, травень

# 4 000!

**Сардэчна віншую з выхадам юбілейнага нумара. Жадаю, каб на старонках "ЛіМа" і надалей з'яўляліся таленавітыя творы беларускіх пісьменнікаў і журналістаў.**

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ,**
**старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку**

***У дантаўскай літаратурнай міфалогіі ЛІМб — першы круг пекла, у нашай літаратурнай рэчаіснасці "ЛіМ" — апошні выратавальны круг. Выпусціць з яго дух — і вельмі проста ўсе матросы і капітаны беларускай літаратуры могуць пайсці на дно... Дык моцнага табе духу, "ЛіМ"!***

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ,**
**старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**

**Далёка за межамі Беларусі ведаюць, чытаюць наш "ЛіМ". Прыемна павіншаваць такую знаную газету! Шчырае дзякуй за тое, што многія гады яна сябруе з музыкай, надае асаблівую ўвагу творчасці беларускіх кампазітараў і выканаўцаў, што на яе старонках заўсёды былі, ёсць і — я ўпэўнены! — будуць разнастайныя матэрыялы пра музычнае мастацтва. Мастацтва, роля якога ў духоўным жыцці чалавека надзвычай вялікая. Зычу далейшых творчых поспехаў, чакаю новых цікавых публікацый!**

**Ігар ЛУЧАНОК**

**Лічу штотыднёвік сапраўднай газетай творчай інтэлігенцыі са сваім адметным абліччам, адной з лепшых газет у нашай краіне.**

**Матэрыялы, якія з'яўляліся і з'яўляюцца на старонках "ЛіМа", заўсёды высокапрафесійныя, носяць прынцыповы і аб'ектыўны характар, шматгранна асвятляюць увесь спектр нашага творчага жыцця. На працягу многіх дзесяцігоддзяў свайго існавання штотыднёвік перажыў лепшыя і горшыя часы, але заўсёды заставаўся верны аднаму вечнаму — мастацтву.**

**Зычу штотыднёвіку і надалей заставацца на пярэднім краі творчага працэсу, адлюстроўваць грамадзянскую сталасць і прынцыповасць беларускай інтэлігенцыі.**

**Васіль ШАРАНГОВІЧ**

## 1999 год — 19/3999

(папярэдні нумар газеты)

*"Жыў музыка Налім..."*
Янка КУПАЛА

*Столькі дзевятак (чур, не шасцёрак)!*
*Нібы на травеньскім небе зорак.*
*Невыпадковы такі збег дзевятак:*
*На дзевятым жа — родзім дзіцятак.*
*На дзевятках расчата-зачата*
*Чатырохтысячнае "чада".*
*Нумар да нумара — стосы падшывак —*
*Плён клетак нервовых,*
*жыл і паджылак.*
*"Жыў музыка Налім",*
*і выходзіў-жыў "ЛіМ".*
*Ды вось у адрозненне ад Наліма,*
*Які, як вядома, сканаў заўчасна, —*
*Лёс нашай газеты,*
*нашага "ЛіМа"*
*Склаўся-надаўся болей шчасна.*
*З чым і віншую лімаўцаў шчыра*
*Ад імя аўтарскага кліра!*

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

# Паходня Кірылы і Мяфодзія свеціць і сёння

ДА ДНЯ СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ

Больш за тысячу гадоў таму сыны балгарскага эмігранта ў Візантыйскай імперыі браты Канстанцін (малодшы, 826 года нараджэння, перад смерцю ў 869 г., прыняўшы манаства, атрымаў імя Кірыла) і Мяфодзій (815—885) — грамадзяне Візантыйскай імперыі — распрацавалі і ўкаранілі славянскую азбуку, разлічаную перш за ўсё на балгараў.

Паўстае пытанне: хто ці што падштурхнула маладых царадворцаў на такую незвычайную справу, звязаную нават з пэўнай рызыкай для іх прыдворнай кар'еры, якая пачыналася проста бліскуча (ажыццяўленне задумы было, вядома, не на карысць Візантыйскай імперыі)? Дзіўна ўжо тое, што бацька братоў Лявон (Леон), выхадзец з язычніцкай Балгарыі, быў высокапастаўленым чыноўнікам пры канстанцінопальскім двары. Відаць, былі заўважаны і вылучаны за інтэлектуальныя і арганізатарскія здольнасці і пераведзены з правінцыі ў сталіцу. Яго сыны нарадзіліся ў паўночнай грэчаскай правінцыі ў Саланіках (Салуні), дзе ў той час было шмат славянскага насельніцтва. Мабыць, таму яны ведалі не толькі грэчаскую і іншыя мовы, але з дзяцінства авалодалі і балгарскай.

Канстанцін (Кірыла) і Мяфодзій, якіх пазней назавуць апосталамі славянскай асветы, былі, безумоўна, вельмі таленавітымі людзьмі. Не могуць не захапляць выключныя здольнасці меншага з братоў, Канстанціна, якія дазволілі 17-гадоваму юнаку з правінцыі мець вольны доступ у імператарскі палац, а ў 20 гадоў ён ужо прафесар філасофіі... У ажыццяўленні задуманай справы Канстанцін (Кірыла) быў бясспрэчным лідэрам. Старэйшы брат, Мяфодзій, за свой шматгранны талент таксама заняў віднае месца ў структуры імператарскай улады.

У абставінах саперніцтва паміж Канстанцінопалем і Рымам за ўплыў на славянскае насельніцтва і ўкараненне хрысціянства ў Еўропе (з кожнага боку ў гэтым працэсе былі свае прыярытэты) і фарміраваўся светапогляд і грамадзянская пазіцыя братоў, будучых асветнікаў. У іх душах, напэўна, абудзіўся пратэст супраць трохмоўя ў богаслужэнні, якое было непахіснай догмай: дазвалялася весці набажэнства толькі на адной з трох моў — старажытнаяўрэйскай, грэчаскай і лацінскай, што, вядома, абмяжоўвала і ўціскала мовы іншых плямён і народаў. На маладую на той час дзяржаву Балгарыю, народ якой яшчэ не быў масава далучаны да хрысціянства, з Усходу ціснула праваслаўная Візантыя з яе культам грэчаскай мовы, з Захаду — рымска-каталіцкая царква з яе лацінай.

*(Працяг на стар. 4)*

# 1799-1999 ...І Пушкіна геній непаўторны

Часопіс "Всемирная литература" практыкуе выпуск спецыяльных нумароў, прысвечаных асобным літаратурам. "Героем" трэцяга ў сёлетнім годзе з'яўляецца руская літаратура. А з'явіўся ён, як вядома, напярэдадні 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

Таму і невыпадкова, што і ўсе матэрыялы нумара прадстаўлены як бы пад знакам вялікага рускага паэта.



Старшыня Дзяржаўнай камісіі Расійскай Федэрацыі па падрыхтоўцы і правядзенні 200-годдзя з дня нараджэння А. Пушкіна Я. Прымакоў у звароце да чытача заначае: "Веліччасць пушкінскай творчасці ў тым, што яна блізкая мільёнам людзей на планеце. Пафіласофску глыбокая і адначасова іскрыстая і лёгкая яна ўвайшла ў нашу агульную славянскую культуру, аказала велізарны ўплыў практычна ўсіх пісьменнікаў Расіі, Беларусі, Украіны, іншых славянскіх дзяржаў. Літаратурныя працэсы ў многіх краінах свету асветлены бляскам пушкінскіх твораў, што сталі прадметам даследавання вядучых вучоных-літаратуразнаўцаў розных нацыянальнасцяў, перакананняў і вераванняў. Мы святкуем у гэтым годзе двухсотгоддзе з дня нараджэння генія. Гэта — наша з вамі свята — свята ўсвядомленага гуманізму, трыумфу розуму над неразумнасцю, свята велічы дабра і братэрства".

У нумары змешчаны творы прозы і паэзіі І. Буніна, В. Распуціна, Г. Гарышына, Б. Яўсеева, В. Шаламава і іншых аўтараў. Чытачу прапануецца п'еса К. Кім і У. Маканіна "Другі баль Наташы", артыкулы А. Андрэева "Шолахаўскае пытанне", як мадэль міфатворчасці", Я. Бабосава і І. Вераб'ёвай "Павел Фларэнскі. Рэлігійна-эстэтычная касмалогія культуры"...

Прэзентацыя гэтага нумара прайшла ў мінулую пятніцу ў прэсцэнтры Дома прэсы ў Мінску. Арганізатарамі правядзення яе выступілі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Пасольства Расійскай Федэрацыі і рэдакцыя часопіса "Всемирная литература".

Вяла сустрэчу галоўны рэдактар "ВЛ" Т. Бондар. Перад журналістамі выступілі старшыня Дзяржкамітэта па друку М. Падгайны, аташэ па культуры Расійскага пасольства ў РБ Р. Лагавеёў, старшыня Камісіі па міжнародным супрацоўніцтве Парламенцкага сходу Расіі — Беларусі М. Чаргінец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ Э. Скобелеў, старшыня Таварыства Беларусь — Расія, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ Р. Баравікова, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, І. Чарота...

Гаворка ішла аб плённасці працы рэдакцыі "ВЛ". Падкрэслівалася, што ў наш складаны час часопіс з'яўляецца сапраўдным астраўком духоўнасці. Звярталася ўвага на важнасць выпуску нумароў, прысвечаных асобным літаратурам, а трэці называўся творчай удачай калектыву. А тое, што з'явіўся ён у сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння А. Пушкіна, яшчэ адно пацвярджэнне, наколькі геній вялікага паэта непаўторны і здатны ён аб'ядноўваць народы. А да творчасці А. Пушкіна яшчэ далучацца і далучацца. І нельга не пагадзіцца з В. Іпатавай, што ўсяго яго па-сапраўднаму прачытаюць толькі нашы нашчадкі.

**Н. К.**

*Фота К. ДРОБАВА*

# БРАВА! Год — звычайны, канцэрт — юбілейны

Камерны аркестр Брэсцкай абласной філармоніі правёў сёлета свой 500-ты канцэрт, які адбыўся ў касцёле Узвіжання Святога Крыжа. Юбілейнае выступленне падсумавала васьмігоддзе творчай дзейнасці калектыву, які ведаюць ужо не толькі на Беларусі, а і ў Расіі, на Украіне, у Польшчы.

Аркестр неаднаразова ўдзельнічаў у Міжнародным фестывалі гітарыстаў у Гомелі. З брэстаўчанамі выступалі такія знакамітасці, як Т. Кернер (ЗША), У. Дайчыновіч (Югаславія), У. Блаха (Чэхія), народны артыст Беларусі, прафесар І. Алоўнікаў, салісты Вялікага тэатра Расіі А. Эйзен, У. Дзіц, М. Мінсаеў.

І ў самім аркестры нямала выдатных салістаў — Валянціна Гарноўская (віяланчэль), Святлана Зяневіч (скрыпка), Таццяна Куляшова (скрыпка), заслужаны артыст Украіны, спявак Фёдар Богдан.

За час існавання калектыву яго рэпертуар папаўняўся творамі розных эпох і жанраў. Толькі твораў буйных форм у рэпертуары больш як 70. У юбілейным канцэрце гучала музыка І. С. Баха, Г. Гендэля, Б. Марчэлы, П. Чайкоўскага, Б. Брытэна. "Цудоўна! Шчасце хоць на гадзіну трапіць у свет суладных класічных гукаў. Паболей бы такіх канцэртаў", — гавораць слухачы.

**Алена КАПАЧОВА**

# Кветкі Максіму

25 мая 1917 года сярод квітнеючай крымскай вясны ў Ялце адзінока памёр вялікі беларускі паэт Максім Багдановіч. Гэты трагічны дзень стаў днём нашага агульнага смутку. 25 мая ў 12 гадзін запрашаем ускласці кветкі да помніка М. Багдановічу ўсіх, каму дарагі Максімаў вобраз і яго неўміручая паэзія. Словы любові і пашаны скажуць вядомыя паэты, прагучаць бардаўскія песні. У 13 гадзін у Свята-Петра-Паўлаўскім саборы адбудзецца памінальны малебен па М. Багдановічу.

**Літаратурны музей М. Багдановіча**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

ДРУК

# Аформіць падпіску можна па факсу

**_Стартавала падпісная кампанія на другое паўгоддзе 1999 года. У чым яе асаблівасці, як плануюць сваю работу арганізатары падпіскі, якія паслугі прапануюць патэнцыяльнаму чытачу перыёдыкі? Аб гэтым расказвае намеснік дырэктара Мінскага гарадскога аптова-рознічнага прадпрыемства "Белсаюздрук" Т. І. ІВІЦКАЯ._**

Галоўная асаблівасць гэтай падпісной кампаніі ў яе хуткацечнасці. Афіцыйна пачаўшыся 14 мая, яна завершыцца 18 чэрвеня. А на некаторыя расійскія выданні і выданні краін СНД падпісацца можна будзе толькі да 22 мая. Як бачым, чытачу на роздум і зборы часу амаль няма.

Таму наша прадпрыемства на час правядзення падпіскі максімальна мабілізавала свае сілы. Падпіска будзе прымацца па ўсіх каталогах не толькі ў спецыяльных пунктах, але і ў кожным магазіне "Белсаюздруку" (а іх у нас каля 25), у большасці кіёскаў, размешчаных унутры ўстаноў, прадпрыемстваў. Усе кропкі, дзе прымаецца падпіска, на гэты час працуюць без абедзеннага перапынку, рабочы дзень будзе прадоўжаны. Мы ўводзім шэраг новых форм у рабоце з падпісчыкам. Перш за ўсё, гэта так званая падпіска да запатрабавання. У гэтым выпадку карэспандэнцыя дастаўляецца не на хатні адрас, а на бліжэйшы ад вас газетны кіёск або магазін. Такім чынам падпісчык можа зэканоміць на дастаўцы выданняў і забяспечыць іх захаванасць.

Для арганізацый і ўстаноў уводзіцца так званая падпіска па факсу. Дастаткова прадпрыемству даслаць заяўку з пералікам выданняў, а супрацоўнікі "Белсаюздруку" самі запоўняць даставачныя карткі і вам толькі застанецца аплаціць выстаўлены рахунак. Апрача работнікаў "Белсаюздруку", да арганізацыі падпіскі мы прыцягваем шырокае кола грамадскіх распаўсюджвальнікаў. Пры вашым жаданні яны могуць прайсці на любое прадпрыемства горада і аформіць падпіску як для ведамства, так і для індывідуальных падпісчыкаў.

Прадпрыемства "Белсаюздруку" падрыхтавалася да работы ў інтэнсіўным рэжыме, прадугледжана ўсё магчымае для зручнасці падпісчыкаў. Але разам з тым чытачам не раім адкладваць падпіску на апошні дзень.

У хуткаплынных паўсядзённых клопатах можна і спазніцца.

НОВАЕ

# "Беларускі кнігазбор": Кастусь Каліноўскі

Працягваецца выпуск бібліятэкі "Беларускі кнігазбор", распрацаванай у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, пачатак якой быў пакладзены ў 1996 годзе выхадам "Выбраных твораў" Яна Чачота. Пасля з'явіліся тамы выбранага Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі, калектыўны зборнік "Філаматы і філарэты", а таксама "Выбраныя творы" Яна Баршчэўскага. Усе яны выйшлі ў першай серыі, якая складаецца з мастацкіх твораў. Адначасова выдаецца і другая — "Гісторыка-літаратурныя помнікі". Першынцам у ёй стаў зборнік "Беларускія летапісы і хронікі". А толькі што пабачыў свет другі том і восьмы з усяго "Беларускага кнігазбору", у якім прадстаўлены творы і дакументы, якія тычацца жыцця, творчасці, рэвалюцыйнай дзейнасці нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. Назва кнігі дакладна перадае сутнасць таго, у імя чаго жыў і змагаўся гэты рыцар свабоды, — "За нашую вольнасць".

"Рыцар свабоды" — так назваў свой уступны артыкул Генадзь Кісялёў, які напісаў і пасляслоўе "Кастусь Каліноўскі, яго час і спадчына". Генадзь Васільевіч з'яўляецца таксама ўкладальнікам, а ў неабходным выпадку перакладчыкам твораў на беларускую мову, аўтарам грунтоўных каментарыяў. Атрымаўся аб'ёмны, больш за 29 улікова-выдавецкіх аркушаў том — найбольш поўнае на сённяшні дзень выданне як спадчыны самога К. Каліноўскага, так і матэрыялаў, якія маюць дачыненне да яго дзейнасці.

Падобныя захады рабіліся і дагэтуль. А ўвогуле цікавасць да асобы К. Каліноўскага павялічылася ў сувязі з 150-годдзем з дня яго нараджэння і 125-годдзем з дня пачатку паўстання, якое К. Каліноўскі ўзначаліў. У 1988 годзе выдавецтва "Беларусь" выпусціла пад эгідай тагачаснага Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ на рускай мове зборнік "К. Калиновский. Из печатного и рукописного наследия", падрыхтаваны Р. Платонавым, М. Сташкевічам, В. Шалькевічам, А. Гесь. Аднак, прызнаючы своечасовым з'яўленне гэтай кнігі, нельга не адзначыць, што яна не магла прэтэндаваць, кажучы словамі Г. Кісялёва, на "аўтарскую кніжку Каліноўскага". У прыватнасці, "Пісьмы з-пад шыбеніцы" пададзены ва ўрыўках, асобныя творы і дакументы ўвогуле прапушчаны...

"Аўтарская кніжка Каліноўскага" ў яе цяперашнім выглядзе — гэта найперш раздзелы "Мужыцкая праўда" і "Пісьмы з-пад шыбеніцы", а наступны — "Публіцыстыка ў польскамоўнай падпольнай прэсе", у якім змешчаны матэрыялы з газет "Хоронгеў свободы" ("Сцяг свабоды"), "Глос з Літвы" і іншых. Прыведзена эпісталярная спадчына К. Каліноўскага — лісты, прашэнні, надпісы, зробленыя ім з рознай нагоды. Шырока прадстаўлены "Дакументы паўстання" — афіцыйныя матэрыялы віленскага паўстанцкага цэнтра за той перыяд, калі яго ўзначальваў К. Каліноўскі, прыводзяцца акты К. Каліноўскага ў якасці камісара Гродзенскай губерні і іншыя дакументы. Да месца ў кнізе раздзелы "Паказанні", "Сведчанні сучаснікаў і гісторыкаў". У апошнім ёсць падраздзелы "Грамадска-палітычныя погляды Каліноўскага", "Пазіцыя на розных этапах", "Раннія ацэнкі спадчыны". Чытач мае магчымасць пазнаёміцца і з "Беларускай паўстанцкай публіцыстыкай часоў Каліноўскага", "Лістамі Віктара Каліноўскага".

А эпіграфам да тома ўзяты пароль паўстанцаў 1863 года: "—Каго любіш? — Люблю Беларусь. — Так узаемна!" і вытрымка з аднаго з матэрыялаў газеты "Хоронгеў свободы": "Народ маскоўскі скалянаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм".

"Беларускі кнігазбор" у многім выходзіць дзякуючы спонсарам. Таму ў канцы тома з'явілася сведчанне "МФ "Беларускі кнігазбор" выказвае вялікую падзяку сп. Аляксандру Фядуту за чынны ўдзел у выданні гэтай кнігі, а таксама шчыра дзякуе за дапамогу прадпрыемству "Рытм" (ген. дырэктар М. Віткоўскі), ЗАТ "Сотвар" (кіраўнік А. Гуркоў), фундацыі імя П. Крэчэўскага, сп. А. Данільчыку, сп. М. Грэбню, сп. М. Прускаму, сп. Я. Запрудніку".

А да друку рыхтуюцца чарговыя тамы — выбраныя творы Кузьмы Чорнага, Алеся Гаруна, Элізы Ажэшкі, Цёткі, Паўлюка Труса, "Беларусы" Яўхіма Карскага, зборнік "Старажытная літаратура Беларусі".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

СУСТРЭЧЫ

# У духу яднання

Двух славутых Іяганаў — Гутэнберга і Гётэ — ведае ўвесь цывілізаваны свет. У першага набліжаецца 600-гадовы юбілей, у другога— 250-гадовы. З нагоды гэтых культурных датаў Беларускае таварыства немцаў "Відэнгебурт" ("Адраджэнне") разам з Камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей і Таварыствам дружбы наладзілі навукова-мастацкую сустрэчу.

Прафесар Адам Мальдзіс прасачыў гісторыю беларуска-нямецкіх культурных узаемадачыненняў. Архітэктура, тэатр, кнігадрукаванне, прыкладное мастацтва і многія іншыя сферы культуры паспяхова развіваліся пры ўдзеле нямецкіх, аўстрыйскіх, прускіх майстроў. Згадаем хаця б такую выдатную з'яву, як беларускі тэатр 18-га стагоддзя, першую оперу "Агатка", напісаную Янам Давідам Голандам і пастаўленую ў Нясвіжы, шкляныя мануфактуры Урэчча і Налібокаў. У Міры нарадзіўся Саламон Маймон, даследчык Канта. Першую оперу паводле "Фаўста" напісаў ураджэнец Беларусі Антоній Радзівіл.

Традыцыі нямецкага кнігадрукавання выкарыстоўваў наш першадрукар Скарына, у прыватнасці, гэта тычыцца тэхнікі, вёрсткі, мастацкага афармлення ягоных кніг.

Скарынаўскі цэнтр услед за зборнікамі "Міцкевіч і Беларусь", "Пушкін і Беларусь" збіраецца выдаць аналагічны зборнік, прысвечаны беларускаму гётэзнаўству.

На сустрэчы выступіў госць з Германіі, знаўца творчасці вялікага паэта прафесар Фрошле. Вершы Гётэ ў перакладах прачыталі артыстка Галіна Дзягілева і студэнтка лінгвістычнага універсітэта Каралі на Садлуцкая (яна ж і аўтар перакладаў).

Адкрыліся дзве выставы: "Майнц на фотаздымках" (родны горад Гутэнберга) і графікі Арлена Кашкурэвіча. Пра яго выдатныя ілюстрацыі да трагедыі "Фаўст" 70-х гадоў гаварыў мастацтвазнаўца Яўген Шунейка.

Аздобілі імпрэзу батлеечныя прадстаўленні, дзе героі размаўлялі на дзвюх мовах. Прычым Скарына скардзіўся Гутэнбергу, што ў Мінску яму дасюль не паставілі помнік...

Беларускія і нямецкія старажытныя балады, танцы выканаў фальклорны гурт Акадэміі мастацтваў пад кіраўніцтвам І. Мазюк.

У арганізацыі юбілейнага святкавання прыняў актыўны ўдзел сакратар Таварыства Беларусь — Германія Д. Клечка, а вяла яго старшыня нямецкай суполкі Таццяна Горбач. Акрамя мінчукоў, удзельнічалі госці з Віцебска і Бабруйска.

Па матэрыялах навукова-мастацкай сустрэчы будзе падрыхтаваны другі альманах беларускіх немцаў "Wie geht's?".

**Г. З.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬ...*

# Мастацкае слова над Дняпром

Пасёлак гарадскога тыпу Стрэшын, што на Жлобіншчыне, стаіць у маляўнічым месцы над Дняпром. Тут нарадзілася нямала знакамітых людзей. Жлобінская цэнтральная бібліятэка правяла ў Стрэшыне чарговую літаратурную сустрэчу з цыкла "Галасы роднага краю". Яна была прысвечана творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў-землякоў Міколы Лупсякова і Хведара Жычкі, а таксама загадчыка кафедры беларускай літаратуры Магілёўскага педуніверсітэта Васіля Рагаўцова. У сустрэчы прынялі ўдзел кіраўнікі райцэнтра, бібліятэчныя работнікі. На яе таксама прыехалі старшыня абласной журналісцкай арганізацыі, галоўны рэдактар "Гомельскай праўды" Валерый Логвін, які нарадзіўся ў Стрэшыне, і гомельскі паэт Ігар Журбін. Выступілі і мясцовыя паэтэсы Людміла Курціна, Ірына Сосна, Вольга Трубілава, Алеся Іванова.

# Помнік роднаму куту

Чарнобыльская катастрофа зрабіла сотні вёсак і пасёлкаў Гомельшчыны мёртвымі. Не па сваёй волі іх жыхары кінулі радзіму і сталі перасяленцамі. Але ж ці забудуць яны свае вуліцы, квітнеючыя сады, лясныя паляны, лугавіны, рэчкі... Іх радзіма жыве ў абрадавых песнях, прыпеўках, бытавых сцэнах, якія былі характэрныя для той ці іншай вёскі. Сапраўдны помнік роднаму кутку, неацэнны духоўны скарб.

Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржуніверсітэта Валянціна Станіславаўна Новак запісала абрады, святочныя рытуалы, звычкі, песні перасяленцаў і выпусціла зборнік "Абрадавы фальклор Гомельскага Палесся". Падтрымала справу ўпраўленне культуры аблвыканкама, а кніжку выдаў Гомельскі цэнтр навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі. Зборнік стане карысным дапаможнікам для фалькларыстаў, лінгвістаў, гісторыкаў, настаўнікаў, студэнтаў, для ўсіх тых, каму роднае слова — неабыякавае.

# Жыве франтавік у сваіх творах

Сёлета вядомаму гомельскаму разбяру па дрэве Васілю Рыгоравічу Сібелеву споўнілася б 80 гадоў. Але, на жаль, ветэран вайны, які франтавымі дарогамі прайшоў ад Волгі да Одэра і вызваляў Беларусь, не дажыў да свайго юбілею. Гэта быў чалавек, які вельмі любіў мастацтва, пастаянна ўдзельнічаў у выставах, за высокае майстэрства неаднаразова ўзнагароджваўся дыпломамі і граматамі. Сібелеў з'яўляецца аўтарам многіх скульптурных работ, у якіх тонка і адметна перададзены вобразы Жукава, Пушкіна, Шаляпіна, Уланавай і іншых знакамітых людзей. У сямейным архіве майстра захаваліся і малюнкі баявых таварышаў. Гомельскі цэнтр народнай творчасці арганізаваў у абласной бібліятэцы персанальную экспазіцыю твораў Васіля Рыгоравіча.

# Гэты агністы "Верасок"

Петрыкаўскі дзіцячы ўзорны ансамбль "Верасок" сёлета адзначае свой 25-гадовы юбілей. На многіх сцэнах вобласці выступае ён з нязменным поспехам, з'яўляецца дыпламантам рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТ...*

# Дзень сям'і

У Жабінцы прайшлі святы, прымеркаваныя да Дня сям'і. У мясцовым Доме культуры адзначалі залатыя, рубінавыя, сярэбраныя юбілеі, віншавалі маладажонаў... Шэсцьдзесят гадоў пражылі разам Сцяпан Васільевіч і Ганна Васільеўна Аксюцікі, выхавалі трох дзяцей. Ушанавалася і працоўная дынастыя Марозаў з калгаса "Рассвет". Механізатарам у гаспадарцы працуе не толькі бацька, але і пяць ягоных сыноў... Гучала ў гэты дзень цікавая канцэртная праграма, ладзілася выстава сямейнай творчасці.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

# Дзве выставы разам

Незвычайная экспазіцыя размясцілася ў галоўнай выставачнай зале абласнога цэнтра. Тут паядналіся дзве выставы — жывапісных і графічных работ мастакоў Брэстчыны і... экзатычных жывёл, прывезеных з Дагестана. На фоне палескіх пейзажаў і нацюрмортаў уздымае крылы жывы горны арол, варушацца змеі...

Такая эксцэнтрычнасць мае зусім рэалістычнае вытлумачэнне: абласная мастакоўская арганізацыя і камбінат "Мастацтва" адчуваюць нястачу сродкаў, у прыватнасці — для арэнднай аплаты памяшканняў. Цяперашняя "падвойная" выстава выклікала павышаную цікавасць у наведвальнікаў, на што і разлічвалі яе арганізатары. Праўда, самі мастакі ставяцца да ўсяго гэтага з іроніяй: а раптам у будучых іхніх пейзажах з'явяцца не толькі буслы, зубры ды вавёркі...

**Сымон АКСЕНІН**

*МАГІЛЁЎ...*

# Перамога "Спадчыны"

Народныя харавы ансамбль "Спадчына" Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку вярнуўся з чацвёртага фестывалю праваслаўных песняпеваў з дыпломам першай ступені. Фестываль праходзіў у Мінску. У ім бралі ўдзел аматарскія калектывы і царкоўныя хоры з Гродна, Мінска, Полацка, Віцебска, Польшчы...

"Спадчына" існуе ўжо дзесяць гадоў. Дыплом першай ступені — яшчэ адзін доказ таго, што ў калектыву вялікі творчы патэнцыял і вялізнае жаданне ствараць нешта новае.

# Вясна фестывальная...

200-ым угодкам Пушкіна і 130-годдзю з дня нараджэння кампазітара Чуркіна, які працаваў у Магілёве ў 20-ыя гады, прысвечаны ў гэтыя дні першы фестываль студэнцкай творчасці Магілёўскага музычнага вучылішча імя Рымскага-Корсакава.

Зараз у канцэртнай зале абласнога Палаца піянераў упраўленне адукацыі аблвыканкама і аб'яднанне па арганізацыі пазашкольнай выхаваўчай работы праводзяць першы абласны фестываль "Лейся, песня". Конкурсная праграма ўключае наступныя намінацыі: "народныя спевы", "акадэмічнае выкананне", "эстрада". Фестываль завершыцца гала-канцэртам пераможцаў.

З 18 па 28 траўня ў абласным цэнтры пройдзе традыцыйны міжнародны фестываль "Магілёўская музычная вясна-99". На яго збяруцца выканаўцы і творчыя калектывы з Беларусі, Расіі, Украіны і Літвы.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ПОСТАЦІ

***Гэтага пісьменніка называюць прыхільнікам "старога добрага беларускага рэалізму". Можа быць, з літаратуразнаўчага позірку ён і рэаліст, але па жыцці, па душы сваёй — рамантык. Які бачыць, што лясныя звяры маюць твары, як у людзей. Які больш за гарадскую ўтульнасць любіць пушчанскія шаты і паляўнічае вогнішча. Які марыць пра "жыццё па Хемінгуэю", чыя душа адгукнулася на пяшчотна-прывідныя пейзажы Бялыніцкага-Бірулі аповесцю-эсэ "Крыж на зямлі і поўня ў небе", а на відарысы Індыйскага акіяна — эсэ "Глядзіце ў вочы лемуру". Хто адкрыў у сабе не толькі мастака слова, але і — мастака.***

***З Віктарам КАРАМАЗАВЫМ гутарыць Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.***

# Там, дзе пушча, там, дзе Сож...

**— Віктар Філімонавіч, многія вашы кнігі прысвечаны праблемам айчыннай вёскі. Беларускую літаратуру, між іншым, часта называюць менавіта "вясковай", многа гаворыцца пра яе вясковыя "карэнні і вытокі". Прычым апошнім часам гэта ацэньваецца як станоўча, так і адмоўна. Большасць нашых пісьменнікаў — вясковага паходжання, але стала жывуць у сталіцы, якой хаця і далёка да горада-мегаполіса ў сусветным разуменні, але тым не менш некалькі паверхаў бетону між чалавекам і зямлёй яна забяспечвае. Гэтая раздвоенасць — цяга да зямлі, звыклага складу вясковага жыцця і немагчымасць адмовіцца ад культурнага асяродку, які складваецца толькі ў горадзе, адчуваецца ў творах многіх пісьменнікаў. А ці вы прайшлі скрозь балючае прырастанне да горада, ці адчуваеце сябе ў ім сваім?**

— У вёсцы я жыў мала. Бацькі, як я нарадзіўся, жылі ў Мінску. Маці, каб мяне даць свету, паехала ў родны Чэрыкаў, да сваякоў. Потым перабраліся ў Астрашыцкі Гарадок. Бацька выкладаў у школе. Але ў трыццаць сёмым годзе да яго прычапіліся — даў вучням нібыта контррэвалюцыйны тэкст для дыктоўкі, і давялося з'ехаць на Магілёўшчыну. Ад таго часу жывём у Крычаве. Толькі падчас вайны, у бежанстве, жылі ў вёсцы Тургенеўка ва Ульянаўскай вобласці. Вучыўся ў Мінску, ва універсітэце, пасля журналістам працаваў у Чэрыкаве, Крычаве, Магілёве. Запрасілі на працу ў рэдакцыю "Звязды" — перабраўся ў Мінск у шэсцьдзесят трэцім. Не ведаю, гарадскі я ці вясковы? Мястэчкі, у якіх жыў, шмат чым падобныя на вёскі. Маленства прайшло ў вайну — на Волзе, пасля вайны — на Сажы, там і там — у лесе, між палёў ды лугоў. Для пісьменніка галоўнае знайсці сваё месца сярод людзей, усё ж астатняе можна набыць і ўляснай глухмені, нават і культуру. Калі я пісаў раман "Пушча", месяцамі жыў у леснічоўцы на Сажы — зрэдку зойдзе ляснік ці ляснічы, у пакоі — кнігі, рукапісы, прылады ляснога побыту, а з ганка сыду — сцежкі і роднага дзеда, і матчыны, усяго роду па маці, вядуць па пушчы, іду і думаю, і ўяўляю, і бачу не толькі сваё, але і далёкае — таксама сваё. А гэта ж і ёсць духоўная культура. Думаю, што гарадская і вясковая культура асобна адна ад адной не існуюць, тым больш для пісьменніка, яны разам і складаюць нашу духоўную сутнасць. І калі гіне душа вёскі, то гіне ўся нацыянальная культура. Неяк газета "Рэспубліка" прапанавала мне распачаць рубрыку "Мой родны кут". Я кажу: "Вы хочаце, каб прагучала "Мой родны кут, як ты мне мілы...", а я сёння пра тое думаю, як гіне мой родны кут, і як ён мяне выжывае, выціскае з сябе. Напісаў дзве часткі "Пушчы", пісалася ў радасці, светла, а тут на мой лес — радыяцыя, зона. І — дзе тая радасць? Раман я не закончыў, замест працягу напісаў аповесць "Аброчны крыж". Экалагічная і духоўная смерць маю радасць выціснула. У зоне, дзе жывём, гіне не толькі прырода — гіне чалавек, яго душа, добрыя людзі выміраюць ці раз'язджаюцца. З тымі, хто застаецца, бывае, ахвоты бачыцца няма. Адны спіліся, жахліва — як співаюцца ў нас людзі, не толькі мужчыны — жанчыны і дзеці, а іншыя проста тупеюць — духоўныя нулі. Людзьмі апанавала воўчая прага — дзе чаго ўрваць, страх адолеў, асабліва тых, хто пры рабоце, пры пасадзе — душы адзін аднаму не адкрыюць. І ўсё гэта ў правінцыі на паверхні, паўсюдна відаць, ад вачэй не схаваеш, як можна схаваць у вялікім горадзе. Як жа тут сказаць, што мая правінцыя мяне сёння абагачае ці радуе? І вёска ў гэтай багне. Гіне. Вы кажаце пра раздвоенасць нашага пісьменніка: адна яго палова — у вёсцы, другая — у горадзе? Я гэтай раздвоенасці не адчуваю. Мне патрэбныя і горад, і вёска, але не абы-якія, мне яны патрэбныя духоўнымі, пры памяці да сваіх культурных традыцый і разумнай павазе да новых духоўных крыніц. А раздвоеным я сябе магу адчуць усюды, і ў вёсцы, і ў роднай хаце, і ў горадзе. Сёння ў нас ці не ўсё маральна і духоўна раскалолася. Вось прыязджаю ў свой Крычаў. Дзе, здаецца, сваю цэласнасць шукаць, як не тут, на радзіме? Але што бачу? Яшчэ ўчора блізкія людзі, духоўна, здавалася, блізкія, мясцовыя журналісты, якія нядаўна ладзілі ў раёне мае творчыя сустрэчы, запрашалі ў госці, прыходзілі да мяне, да поўначы, бывала, вялі сяброўскія застоллі, сёння, хаваючыся за псеўданімамі, паліваюць мяне брудам у сваіх фельетонах, замалёўках, артыкулах. Надрукуюць гэты бруд у раённай газетцы і адразу заходзяць да мяне з вясёлай усмешкай на твары і з бутэлькаю ў кішэні. І гэта ў іх — маральныя нормы. Гэта — інтэлігенты правінцыі. Яны служкі ўлады. А ўлада якая? Гэтакая самая. Галоўны, можна сказаць, ідэолаг раёна, кабета ў нас там ёсць, дзесяць гадоў назад праводзіла ў Крычаве мой творчы вечар, гаварыла аўтару кампліменты і пляскала ў далоні, а не так даўно выступіла ў раённай газетцы — зганіла, як магла, выказалася нават: гэта ж трэба ненавідзець так свой народ, як яго ненавідзіць Карамазаў! Гэта — пра мае дзённікі, што друкаваліся ў часопісах і газетах. А галоўны ідэолаг сказаў — ужо дырэктыва, загад газеце, вось тыя, што пры газеце, у ёй на службе, кідаюцца свой хлеб апраўдваць — хто першы. Наш пісьменнік не заласканы, біты, перад халуямі ўлады спакойны, я ім кажу, каб пісалі і далей, як і на што здатныя, мне і гэта трэба, каб не забывацца, дзе і з кім жыву. Я згадваю гэты факт толькі як факт рэальнасці, вельмі, дарэчы, тыповы, хоць і ў нашай правінцыі ёсць людзі вельмі прыстойныя. Ёсць. Але бездухоўшчына расплываецца, і не сама па сабе — яна сёння жыруе пад аховай ідэалогіі ўлады. Гэта — самая вялікая небяспека для ўсіх нас. А вёска і горад у маёй душы не ваююць. І ў горадзе, і ў вёсцы я адчуваю сябе нармальна. Калі там і там нармальнае духоўнае асяроддзе.

**— А ці ёсць у вас свой культурніцкі асяродак у горадзе, кола блізкіх па духу?**

— Кола? А я яго, здаецца, ніколі не шукаў. Мне не трэба пагалоўе. Для поўнага душэўнага камфорту дастаткова бывае і аднаго чалавека, калі ён табе цікавы і не здраднік. Сёння гэта не так і мала. Пісьменнік павінен адчуваць сябе камфортна і тады, калі ён адзін. Духоўны асяродак — гэта і прырода, і кнігі, і твая праца, любімая. Ёсць і сябры. Ёсць проста людзі, з якімі прыемна сустрэцца. Іх мне, звычайна, знаходзіць мая літаратурная праца. Пісаў пра прыроду, у прыродзе — было шмат лясных сяброў, паляўнічых, леснікоў, егераў, рыбакоў. Апошнія гады пішу пра мастакоў — з імі сябрую. Бываю ў іх у майстэрнях, на выстаўках. Кожны год езджу на пленэры Бялыніцкага-Бірулі. Цікавых людзей стараюся не абыходзіць. На радзіме Бірулі, на Друці, у нас стварыўся цікавы асяродак духоўных аднадумцаў. Там творчая сяброўская атмасфера. Уплывае. Нават і сам узяўся за пэндзаль, адклаўшы пісьменніцкія прылады працы. А як пачаў — уліп, нібы тая муха ў мёд. То, як пісьменнік, бачыў у прыродзе вобразы, а то яшчэ і малюнак бачыш, і колер, і такую складаную колеравую гаму, жывапіс. Вясна — паехаў у Крычаў. На Сажы пасядзеў — прывёз пяць пейзажаў вясновых: крыгаход, паводка, першая зелянінка. Здаецца, ніколі яшчэ не бачыў гэтакай вясновае сінізны — вады, неба, паветра, — як сёлета. Вочы заплюшчу — кругі сінія ў вачах. А якія адценні. Проста колер, светлацені раней гэтак не назіраў, як цяпер. А гэта ж — і літаратура? Прываблівацюць мастакі, якія шмат бяруць у сваё мастацтва з іншых мастацтваў і жанраў. Як бралі з паэзіі, прозы, музыкі Бялыніцкі-Біруля ці Левітан. А Канстанцін Каровін, Дэлакруа, Ван-Гог — якая ў іх проза, які літаратурны стыль! Гэтакая універсальнасць і нашаму пісьменніку вельмі патрэбная.

**— А калі вы ўзяліся за пэндзаль?**

— Гады два назад. На пленэры ў Бялынічах. А можна і так сказаць: у школе, як вучыўся, пісаў акварэлі і алеем. Па тых часах гэта — алейныя фарбы і акварэль — было рэдкасцю. І былі поспехі. Пазнаёміўся з настаўнікам малявання педвучылішча, Іваноў такі быў, мастак, адукаваны, заканчваў, здаецца, мастацкае вучылішча, ён мною зацікавіўся, я насіў да яго свае работы і ён мне казаў пасля школы ісці ў мастацкае вучылішча ў Віцебск. Але тады над намі, выпускнікамі школы, уладу меў яшчэ і ваенкамат. Уручылі канверт з дакументамі і адправілі ў Ленінград, у ваенную акадэмію, інжынерную. Душа ў мяне да вайсковай службы не ляжала. Нас было чацвёра, сяброў-аднакласнікаў, мы першы ж экзамен знарок завалілі — паставілі нам па двойцы і прагналі з казармы на вуліцу. І пайшоў я адтуль з сябрам у Інстытут харчовай прамысловасці, паступалі на брадзільнае аддзяленне. У піваварьі падаліся. Але тая мая вандроўка закончылася тым, што



вярнуўся дадому і ўжо праз год знайшоў тое, што было па душы: універсітэт, журфак. З таго часу я за пэндзаль не браўся. І вось — пленэр у Бялынічах. Успомніў маладое захапленне. А цяпер, калі не пішацца словам, пачынаю пісаць фарбамі. Гэта пасабляе трымаць творчую форму, слову літаратурнаму пасабляе.

**— Цікава, адкуль у вас мастакоўскі талент? Хто ў вашым родзе быў таксама адораны? Выявілася ваша здольнасць да малявання, можа, і выпадкова, але ж не магла яна ўзнікнуць толькі цяпер, гэтаксама выпадкова.**

— Цётка Зіна вышывала добра... Малюнкі для дываноў прыдумвала, з сюжэтамі. Матчын бацька быў рамеснік, але ж і мастак — золатам крыў купалы, рэстаўраваў саборы, іканастасы, рабіў вупраж, рыштунак для паляўнічых, і ўсё сам аздабляў. Распісваў вазкі панам. Маці расказвала, што да рэвалюцыі ў Чэрыкаве быў музей, і ў двары таго музея стаяла зробленая яе бацькам дакладная копія карэты Екацярыны II, у якой царыца ехала праз Беларусь, і копіі сімвалічных ключоў з футараламі, якія ёй тут уручылі — залатых і сярэбраных ў чорным і чырвоным футаралах, абабітых аксамітам. Калі б не рэвалюцыя, дзед адчыніў бы мастацкую майстэрню — у яго двары нават шыльда стаяла: "Мастацкая майстэрня Шаблоўскага". Бацька ж мой выкладаў літаратуру. І ўжо цяпер, з лістоў дзеда, я даведаўся, што бацька да рэвалюцыі быў рэгентам царкоўнага хору. А пры савецкай уладзе царкву нібыта не прызнаваў... У тых жа лістах ёсць успаміны, што хор быў шасцігалосы, пеўчыя мелі цудоўныя галасы. Маці расказвала, што дырэктарам школы, дзе працаваў бацька, быў родны брат знакамітага спевака Івана Казлоўскага, і сам спявак аднойчы прыязджаў туды. І маці ўспамінае, як Казлоўскі з лыжачкай лазіў у горла да майго бацькі, глядзець, як у таго галасавыя звязкі зладжаныя. Відаць, моцна спяваў. І на скрыпцы бацька граў. Нямецкая скрыпка ў нас была. Гадоў пяць назад падчас пажару абгарэла. Я і такую хацеў пакінуць, але людзі, што рамонт рабілі, спалілі яе ў грубцы. Вось такія мае "мастацкія карані"... А потым пашанцавала сябраваць з таленавітымі людзьмі. Напрыклад, з ляснічым Аляксандрам Карпенкам, які рэзаў па дрэве — для сябе. Мог выразаць, напрыклад, багіню Дзіяну. А незадоўга да смерці пачаў друкаваць у раённай газеце свае апавяданні. Вялікі арыгінал быў, галоўнага героя рамана "Пушча" я пісаў з яго. Яшчэ адзін сябар — дзед Ягор, рыбак. Мінулай восенню наведаў вёску, суседка кажа, памёр дзед Ягор на сто чацвёртым годзе. Я не паверыў, як на сто чацвёртым? Яшчэ дзесяць гадоў таму восеньскай ноччу з ім рыбалілі, ён сець выкідаў, дождж ліў, халодна, вецер. Човен хісткі... Аказваецца, дзеду тады было дзевяноста чатыры гады. А ў размовах — паэт ад прыроды.

**— Дзе тады мяжа між прафесійным і непрафесійным мастацтвам?**

— І ў прафесійнага, і ў непрафесійнага мастака павінен быць талент ад Бога. Але непрафесійны мастак не разглядае сваё мастацтва як матэрыяльны сродак існавання, яно яму толькі для душы.

**— Для наведніка выставы ці чытача ўсё роўна, ці вучыўся прафесійна мастак ці паэт. Ён хоча бачыць прыгажосць. Што вышэй — дываны Алены Кіш ці эксперыменты сучаснага авангардыста з вышэйшай мастацкай адукацыяй?**

— У прафесіянала ад прыроды павінен быць высокі мастацкі густ. У эксперыментах, пра якія вы згадваеце, часам бракуе менавіта мастацкага густу. Самае цяжкае для графамана — менавіта адчуць амаль няўлоўную залежнасць колеру, ці гукаў, ці слоў адно ад аднаго.

**— А вы можаце ўявіць, што некалі будзеце прадаваць свае карціны?**

— У Магілёве знаёмыя мастакі прапаноўвалі мне даць працы ў салон на продаж. І грошы трэба. Але шкада. Адмовіўся. Кожная работа — гэта мой настрой, які не паўтараецца. Вось, напрыклад, крычаўская хата зімовай ноччу. Каму яна патрэбная, толькі мне. Выйшаў — усё снегам замецена. Так і пісаў: выскачу, пагляджу — зноў у хату. На снезе — водсвет акна, за якім — маці. У гэтым водсвеце, у ценю ад шыбы ўбачыў выяву бацькі. А вось пейзаж — у апошнія дні верасня снег выпаў на кусты, восень яшчэ залатая, лісце чырвоненькае. На чорнай рабіне гронкі сінія, пад снегам.

**— У вашай кнізе пра Бялыніцкага-Бірулю ёсць такі эпізод: Біруля сядзіць зіму ў нятопленым доме, але сам у лес па дровы не ідзе. Чакае, пакуль яму прывязуць. Нарэшце, да берага падагналі плыт. Дровы былі сырыя, не гарэлі. А ён з сякераю ў лес не выйшаў, хоць лес быў побач. Не хацеў сячы жывыя дрэвы?**

— У гэтым эпізодзе, мабыць, трэба было знайсці большую глыбіню, яснасць. У кожным лесе ёсць сухастой — толькі бяры. І гультаём Біруля не быў. І мужыкоў мог у вёсцы наняць, каб дроў насеклі, прывезлі. Але ў той час за гнілую калоду можна было і ў турму сесці. Хай згніе, але — не бяры. Гэтак было ўвесь час пры савецкай уладзе. Яшчэ гадоў дваццаць назад мой сябра, ляснічы, за гэта паплаціўся пасадаю — дазволіў сумленнаму мужыку, на прачыстках, падабраць сухастой. А Біруля інтэлігент — супраць закона, хоць і дурнога, ісці не мог.

**— Ён тут выявіў сябе як мастак, як пан?**

— Ён быў мастаком, але і мужыком, і панам. У творчага чалавека дыяпазон разумення і паводзін большы, як у чалавека звычайнага, стасункі з навакольнай рэальнасцю бываюць самыя нечаканыя. Вы ўспомнілі Хемінгуэя. Я за гэта яго, як чалавека і пісьменніка, палюбіў. І рыбак, і паляўнічы, і салдат, і баксёр, і гуляка. Не люблю людзей, тым больш — пісьменнікаў, мастакоў, для якіх жыццё — вузкая шчыліна, трымаюцца адной тэмы, адной вёскі, аднаго парога. Гэта як бы чалавек сеў за багаты гасцінны стол, на якім мноства страў, адна за другую смачнейшая, а ён лупіць адну бульбу, каб не страціць сваю беларускасць. Жыццё кароткае і такое шматстайнае, і трэба ўсё, што ў ім ёсць, убачыць, пераЖыць, зведаць, асэнсаваць. Каб потым у дамавіне не шкадаваць, што не так жыў, ляжаць ціхенька.

**— Але "шырокае жыццё" напэўна ўключае ў сябе нейкую асацыяльнасць. Як з гэтым стасуецца роля добрага сямейніка, бацькі, сына, мужа?**

— Стараюся, каб стасавалася. Частыя вандроўкі, зразумела, успрымаюцца сямейнымі цяжка.

**— Для вас вельмі важна мець сяброўскае кола?**

— Так, вельмі важныя блізкія зносіны з людзьмі. Тут вялікія радасці, але і немалыя расчараванні. Я за сяброўства, але не цаною страты самога сябе, сваёй адметнасці. Я не люблю сяброўства статка, выраю, табуна, дзе разлік і карысць — на першым плане. Гэтакага сяброўства ў мяне не атрымалася. Я яго не шукаў. Яно не па мне. Сябры ў жыцці былі. Ёсць. Не шмат — цяпер, — але ёсць. Люблю жыццё адкрытае і адкрытых людзей. Баюся сяброў, якія ад мяне нешта ўтойваюць, няшчырых.

**— А ці ўвогуле могуць пісьменнікі сябраваць між сабой гранічна шчыра?**

— Часта і я думаў пра гэта. Здавалася б, літаратура не можа быць няшчырай. Але шчырых людзей у літаратуры сустракаў мала.

*(Працяг на стар. 12)*



ЧАСАПІС

## "Близко к сердцу"

**У адным з нумароў мы паведамлялі пра 10-годдзе літаратурна-творчага аб'яднання "Натхненне", што працуе ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Аркадзя Куляшова. Гаварылася і пра тое, што яно выпусціла тры кнігі прозы і паэзіі: дзве ў 1994 годзе і адну летась.**



**1998 годам пазначаны і зборнік "Близко к сердцу", які, як і папярэднія, англамоўны. І прадстаўнічы на імёны — змешаны творы 24 чалавек, пераважна паэтаў-пачаткоўцаў. З апавяданнямі выступаюць толькі Наталля Кулакова і Алена Сугака.**

**Аўтары кнігі — у асноўным студэнты і выкладчыкі універсітэта, хоць сярод іх ёсць тыя, хто скончыў гэтую вышэйшую навучальную ўстанову, але па-ранейшаму падтрымлівае сувязь з літаб'яднаннем. У прыватнасці, тая ж Н. Кулакова ўжо шэсць гадоў жыве ў вёсцы Аўсянка Горацкага раёна, выкладае беларускую мову і літаратуру ў мясцовай сярэдняй школе, друкавалася ў газеце "Чырвоная змена", часопісе "Першацвет", у калектыўных зборніках.**

**У якасці прадмовы да кнігі надрукавана слова крытыка і літаратуразнаўцы Я. Клімуця "Творчым шляхам" і артыкул загадчыка аддзела выхаваўчай работы МДУ Т. Кузьміной "Жыві, "Натхненне"!" З гэтых публікацый можна даведацца пра саму творчую суполку і пра многіх з тых, хто робіць першыя крокі ў літаратуры. Суполка працуе дзякуючы загадчыку кафедры рускай мовы кандыдату філалагічных навук Т. Міхальчук, якая і ўзначальвае "Натхненне".**

**Тамара Рыгораўна і сама піша вершы, яе творы змяшчаліся ў часопісе "Піонер", у калектыўных зборніках, у рэспубліканскіх і абласных газетах. Пяць вершаў прапануюцца чытацкай увазе і ў гэтай кніжцы.**

**Увогуле ж, калі гаварыць пра творы, сабраныя ў зборніку, яны, зразумела, неаднолькавыя па сваіх мастацкіх вартасцях. Ёсць і кволыя першыя спробы пяра, але ёсць і прыстойныя вершы, за якімі — сваё бачанне свету, уменне стварыць непаўторныя вобразы. Ёсць і тое, што аб'ядноўвае ўсіх, незалежна ад майстэрства, узросту, прафесіі. Гэта — улюбёнасць у паэзію, захапленне ёю, любоў менавіта да свайго роднага, беларускага слова.**

**А яшчэ радуе, што вершы пішуць не толькі філолагі, а і студэнты іншых факультэтаў — гістарычнага, дашкольнага выхавання, фізіка-матэматычнага. Гэта тычыцца і выкладчыкаў. Сярод іх вылучаюцца творы загадчыка кафедры беларускай мовы В. Рагаўцова, аўтара дзвюх кніг паэзіі, пра якія "ЛіМ" раней пісаў. В. Рагаўцоў задумваецца над тым, як "...мімалётнае, плыннае зліваецца з вечнасцю". Яго роздум — роздум чалавека, якога непакоіць, як жывём і дзеля чаго жывём:**

*Каб можна было зазірнуць*
*у чалавечую душу,*
*нібыта ў люстэрка, —*
*як бы сумеліся мы*
*ад яе разгубленасці:*
*пакутуе душа,*
*а даводзіцца весяліцца,*
*радасна на душы,*
*а прыходзіцца сумаваць...*
*І ўсё часцей*
*і часцей.*

**Упэўнена трымаюць пяро С. Украінка — таксама імя досыць вядомае: выступаў у калектыўных зборніках, у часопісе "Полымя", рэспубліканскіх газетах, удзельнічаў у фестывалі маладой беларускай літаратуры "Іслач-89". Адзін з лепшых яго вершаў — "У Вязынцы":**

*Трымцеў гарачы небасхіл,*
*рака світала.*
*Я ў бор іду. Там дзівасіл*
*шукаў Купала.*

**Чытач, неабыякавы да паэзіі, не праміне і творы іншых аўтараў. У іх таксама пры ўважлівым знаёмстве можна знайсці тое, што па-сапраўднаму ўсхвалюе, прынясе задавальненне. І, вядома ж, выкліча жаданне з цягам часу пазнаёміцца з новымі вершамі, апавяданнямі аўтараў гэтага зборніка.**

**Лявон ЮРЧЫК**

КНІГАРНЯ

# Пераадольваючы каноны

Георгій Сіненка ў сваёй кнізе "Насуперак канону", што выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука" ў 1997 годзе, асэнсаваў жыццё і творчасць вядомага беларускага паэта, крытыка, эсэіста, перакладчыка, вучонага-літаратуразнаўцы і педагога Алега Лойкі. Аўтару кнігі важна было зразумець, як развівалася творчасць А. Лойкі ў неспрыяльныя для яе часы. Таму і падзагаловак ён даў сваёй манаграфіі "Да праблемы станаўлення творчай індывідуальнасці ў абставінах таталітарызму".

Даследчык выкарыстаў уражанні ад шматгадовага знаёмства з А. Лойкам па сумеснай працы на філалагічным факультэце БДУ, матэрыялы асабістага архіва паэта, звярнуў увагу на цікавыя факты яго біяграфіі, прааналізаваў у гісторыка-храналагічным плане яго друкаваныя творы і тыя, якія пісаліся "для шуфлядкі". У выніку здолеў паказаць, як, насуперак многім перашкодам, шматгранна і непаўторна раскрыўся талент паэта.

А такіх перашкодаў у жыцці А. Лойкі было нямала. Быў сацыяльны і нацыянальны прыгнёт у былой Заходняй Беларусі, дзе нарадзіўся і рос хлопчык. Былі складаныя і драматычныя часы пасля верасня 1939 года, падчас вайны і ў першыя пасляваенныя гады, калі ён сталеў у родным Слоніме. Атмасфера таталітарнай сістэмы прыгнятала і тады, калі вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. На пачатку 90-х гадоў паэт згадаў: "І разам з тым мы адчувалі і подых рэпрэсій. Да ўсяго ж — я быў заходнікам, а да нас у той час адносіліся вельмі насцярожана. Нават ва універсітэт мяне ўзялі толькі кандыдатам. Нягледзячы на тое, што з сямі экзаменаў шэсць я здаў на пяцёркі і адзін на чацвёрку. Мы вымушаны былі весці сябе ціха". Таму і дзённікаў не пісаў, бо яны маглі б стаць даносам на сябе і на тых, словы каго занатуеш.

Не ўсыпаны ружамі быў шлях у А. Лойкі і пазней, калі вучыўся ў аспірантуры, і потым, з 1956 года, калі пачаў працаваць у БДУ. Доўгі час ён кіраваў універсітэцкім аб'яднаннем "Узлёт". Шмат зрабіў як дэкан філалагічнага факультэта. І сёння Алег Антонавіч, загадчык кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя, плённа працуе. Г. Сіненка згадвае, што А. Лойка адзін час узначальваў партыйную арганізацыю факультэта і адначасова зазначае, што яго творчасць прасякнута патрыятычным, адраджэнскім пафасам.

Даследчык імкнецца ўсебакова ахарактарызаваць постаць А. Лойкі, для чаго вызначае пэўныя перыяды яго жыццёвага і творчага шляху. Так, пачатковы перыяд ахопліве 1943—1959 гады. У адпаведным раздзеле манаграфіі прыводзіцца першы друкаваны верш "Восень", які быў змешчаны ў 1943 годзе ў "Баранавіцкай газеце", падаюцца творы са школьнага альбома, згадваюцца публікацыі пачатку 50-х гадоў. Дарэчы выглядаюць і словы А. Лойкі, што яго паэтычнае пакаленне змагло ўголас заявіць пра сябе толькі пасля XX з'езда партыі. Пачатковы перыяд завяршаецца выхадам у 1959 годзе паэтычнага зборніка "На юначым шляху" і манаграфіі "Адам Міцкевіч і беларуская літаратура".

Другі раздзел ахоплівае творчасць 1960—1970 гадоў, трэці — 1971—1980 гадоў, чацвёрты — 1981—1993 гадоў. Заканчваецца кніга раздзелам "Замест заключэння (У пошуках ісціны)", дзе характарызуюцца паэтычныя творы А. Лойкі пачатку 90-х гадоў і тыя, якія ўвайшлі ў яго "Выбраныя творы ў двух тамах" (1992). Такую перыядызацыю можна лічыць у цэлым апраўданай. Думаецца, аднак, што творчасць А. Лойкі можна падзяліць і на такія перыяды: 1943—1956 гады, 1956 — сярэдзіна 60-х гадоў, сярэдзіна 60-х — канец 80-х гадоў, канец 80-х гадоў — 90-я гады.

Г. Сіненка на творчасць А. Лойкі глянуў як на адзінае цэлае, як на сістэму. У пачатковых раздзелах працы выказаў прыхільнасць да тэматычнага прынцыпу пры разглядзе паэзіі, засяродзіў увагу пераважна на аўтабіяграфізме, тэмах радзімы, роднай мовы, беларускай прыроды, Айчыннай вайны, паэта і паэзіі, кахання, працы, дружбы народаў. У далейшым выразней акрэсліў жанрава-стылёвыя асаблівасці і праблематыку.

Даследчык прасачыў эвалюцыю і вызначыў характэрныя асаблівасці творчасці А. Лойкі. Паказаў, што яго паэзія вызначаецца пранікнёнасцю, шчырасцю, лірызмам, узнёсласцю і адначасова філасафічнасцю, грамадзянскасцю, што адной з улюбёных жанравых форм з'яўляецца для паэта балада ("Юнак быў з-пад Слоніма родам", "Балада аб засыпаным", "Цётка Мальва"), што ў яго паэзіі арганічна паяднаны рамантычнае і рэалістычнае, лірычнае і эпічнае.

Яго вершам, заўважае даследчык, асаблівa пра каханне ("Секла яна дровы", "Заўсёды трошкі таямніцай") уласцівы пранікнёнасць пачуцця, напеўнасць, меладычнасць. У іх паэт часта выкарыстоўвае мастацкія асаблівасці народнай песні, выяўляе чуйнасць да жывога народнага слова. Пазначаныя высокай паэтычнай культурай, многія з іх пакладзены на музыку Алегам Атамановым.

У кнізе раскрыты значныя набыткі паэта ў ліра-эпасе (паэмы "Лясная песня", "Лясун", "Развітанне з Радзімай" і інш.), у асэнсаванні мінуўшчыны, звернута ўвага на гумар, іронію і сатыру ў яго паэзіі, на творы для дзяцей. Добра паказана сувязь паэта з айчыннай і сусветнай літаратурай, акрэслена месца ў кантэксце творчасці яго равеснікаў.

Г. Сіненка заўважае, што ў ранейшыя часы А. Лойка прысвячаў вершы рэвалюцыі, партыі, камуністам. Былі ў іх дэкларацыйнасць, рытарычнасць і апісальнасць. Гэта была даніна часу і абставінам. Аднак у савецкія часы ствараліся і вершы зашыфраваныя, іранічныя, сатырычныя, з паэтычным падтэкстам і намёкам ("Белавежская пушча", "На возеры, якое называецца Чорным", "Стукалачкі"). Так, у вершы "Стукалачкі" паэт звярнуўся да дзіцячай ігравой прыпеўкі, каб прамовіць красамоўныя словы "Стукалачкі-стукачы, Як ад вас мне уцячы!..", каб дакладна выявіць тагачасную маральна-псіхалагічную і грамадскую атмасферу: "А наўкола ўсё маўчыць, Стоенасць, трывога..."

Даследчык на належным прафесійным узроўні аналізуе яго манаграфіі "Адам Міцкевіч і беларуская літаратура" (1959), "Новая зямля" Якуба Коласа: Вытокі, веліч, хараство" (1961), "Максім Багдановіч" (1966), "Сустрэча з днём сённяшнім" (1968), "Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя" (1972), зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў і творчых партрэтаў "Паэзія і час" (1981). Слушна адзначае, што літаратуразнаўчыя працы А. Лойкі нясуць на сабе адбітак яго паэтычнага дару, што творчасць пісьменнікаў, якіх ён даследуе, уплывае на яго паэзію. Так, услед за М. Багдановічам ён звярнуўся да сусветнай класічнай паэзіі. У выніку з'явіліся на беларускай мове ў яго перакладах кнігі выбраных твораў П. Верлена "У месяцавым ззянні" (1974), І.-В. Гётэ "Спатканне і растанне" (1981), іншых паэтаў.

Нямала добрых слоў сказаў Г. Сіненка і пра яго падручнік для студэнтаў ВНУ "Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд", які вытрымаў два выданні. Сапраўды, гэты падручнік напісаны на высокім навуковым узроўні і адначасова неараўнадушна. У ім аўтар шмат у чым па-наватарску асэнсаваў беларускую літаратуру, падаў яе ў кантэксце набыткаў сусветнай культуры, закрануў пытанні творчага метаду, стылю, асаблівасцяў паэтыкі творчых індывідуальнасцяў і іх асобных твораў.

Невычэрпнасць таленту А. Лойкі добра раскрыта і пры характарыстыцы яго раманаў-эсэ "Як агонь, як вада" (1984) і "Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае"

# Шчасце світальных дарог

Сёння не часта напаткаеш у кнігарні зборнік нарысаў, публіцыстыкі — час не той. З цяжкасцю знаходзяцца сродкі, каб фінансаваць выданне кніг паэзіі, прозы (дый і мастацкая літаратура, як сведчаць розныя кірмашы, карыстаецца ўсё меншай папулярнасцю, чытача больш цікавяць спецыяльныя энцыклапедычныя, даведачныя выданні, гісторыкакраязнаўчай тэматыкі, творы для дзяцей), перавыдаць класіку. Аднак няма правіла без выключэння. Выдавецтва "Полымя" ўключыла рукапіс Генадзя Пашкова "Палескія вандроўнікі" ў свой план на 1998 год, а напярэдадні сёлетняга года гэты, паводле аўтарскага вызначэння, "лірыка-дакументальны дзённік" пабачыў свет. З'явілася кніга, са старонак якой нібы дыхае цяпло самой Бацькаўшчыны. Напісана яна шчыра, лірычна, з вершаванымі адступленнямі ў канве расказа пра шляхі-дарогі, якімі давялося прайсці (правільней, праплысці) аўтару з таварышамі.

Г. Пашкоў у часе водпуску прайшоў з аднадумцамі сотні кіламетраў па Прыпяці і Гарыні. Сябры яго, гэтаксама як і ён, улюбёныя ў хараство роднага краю, нерушавасць палескай прыроды, поўныя жадання глыбей спазнаць сваю Радзіму. Аўтар так знаёміць чытача з імі:

"**Леанід Тарасавіч Хадкевіч.** На рацэ — лоцман. На беразе — дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея. (Дарэчы, сын пісьменніка Тараса Хадкевіча.)

**Тарасік Хадкевіч.** Сын капітана. На рацэ — юнга. На беразе — ліцэіст.

**Георгій Андрэевіч Ткацэвіч.** На рацэ — боцман. На беразе — дырэктар Дзяржаўнага музея народнага побыту пад адкрытым небам.

**Анатоль Якаўлевіч Канашэвіч.** На рацэ — кок, па сумяшчальніцтве — рыбалоў. На беразе — старшыня фірмы "Арэса".

**Лявон Васільевіч Кірэй.** На рацэ — тэарэтык і практык рыбнай лоўлі на кручкі і блешні. На беразе — эканаміст (таксама тэарэтык і практык)".

І ўсе яны неаднойчы намагаліся высветліць прычыну няспыннай цягі чалавека да чагосьці нязведанага, невядомага: "І адкуль у душы неспатольная прага вандровак? Чаму знарок пакідаеш цёплы гарадскі прытулак, звыклы лад штодзённага бытавання, усё, да чаго прывык, прырос душой, ды кіруешся Бог ведае па што ў невядомы свет? І што там чакае цябе, акрамя дажджу і ветру, мулкіх начлегаў пад здзеклівы гул балотных крывасмокаў?" Тым не менш, правільная і вось такая высновa: "Дзівак чалавек! А можа, гэта дзівосная дзея дарогі? У ёй ты жывеш, як у іншым вымярэнні. Тут свой адлік часу, іншае адчуванне прастory. І на ранейшае жыццё глянеш у дарозе зусім іначай. Гэтулькі пустой непатрэбшчыны выявіш, што міжволі задумаешся: а ці так жывеш, ці на тое трэціш сілы? Усведамляеш спакойна, без роспачы і адчаю".

Кніга быццам пранізана гэтым неспатольным жаданнем лепш спазнаць свой край, зазірнуць у тыя куткі Бацькаўшчыны, якія захавалі першародную чысціню, дзе сама духоўнасць карэніцца і парасткі яе даюць дружныя ўсходы не толькі ў душах самiх жыхароў. Гэтыя ўсходы гатовы ўзрасці на любой жыццядайнай глебе, абы толькі жаданне, імкненне ўпэўніцца, што ўсе выгоды цывілізацыі нішто ў параўнанні з усведамленнем: толькі Бацькаўшчына — "наша адзіная калыска, крыніца жыццёвай сілы і душэўнага слова".

Генадзь Пашкоў не толькі сам гэта прамаўляе. Ён бярэ ў саюзнікі і незабыўнага Уладзіміра Караткевіча, магнітную стужку з запісам якога падарожнікі захапілі ў дарогу. Ды і як не ўзяць было, калі Уладзімір Сымонавіч увесь час як бы знаходзіўся разам з імі: на плыце Леаніда Хадкевіча, які кампанія ўзяла ў якасці аднаго з "плавальных сродкаў", ён адпраўляўся ў свой апошні паход па Прыпяці, адкуль трапіў у бальніцу, так і не змогшы больш стаць на ногі.

Глыбока сімвалічна, што, уладкаваўшыся на першы начлег, яны чытаюць вершы У. Караткевіча з яго зборніка "Матчына душа" і слухаюць жывы голас Уладзіміра Сымонавіча: "Ты жывеш на гераічнай зямлі. Я кажу гэта нягучнае слова майму суайчынніку, чалавеку, які жыве на зямлі беларускай, брату майму па сонцу, прodках, брату па песнях. Ты, як і я, жывеш на гераічнай, дзівоснай зямлі, якая для цябе і мяне, вядома ж, самая лепшая, з размахам яе палёў, пушчаў, разліваў рэк і азёр і галоўным дзівам — яе людзей".

А што наша зямля і на самай справе "самая лепшая", сцвярджае і кніга "Палескія вандроўнікі". Г. Пашкоў не шукае нечаканых, можа, нават "экзатычных" прыкладаў, каб даказаць гэта. Ён проста старанна, уважліва занатоўвае ўсё, што было пабачана падчас падарожжаў (у дарогу падарожнікі збіраліся тройчы, адпаведна і прадстаўлены ў кнізе "тры падарожжы": "Прыпяцкая неруш", "Вяртанне", "Святло Прыгарыння"). І, як высвятляецца, нічога выпадковага ў гэтым "лірыка-дакументальным дзённіку" няма. Можа таму, што стараліся на неабавязковым увагі не запыняць. А хутчэй прычына ў іншым: калі хочаш убачыць толькі добрае, калі жадаецца прыгожага — і ў прыродзе, і ў людзях, — яго абавязкова знойдзеш.

"Галоўнае дзіва" — людзі, знешне непрыкметныя, але багатыя душой, адкрытыя сэрцам, надараліся падарожнікам пастаянна — і ў невялічкіх вёсачках, і ў Тураве, Століне. Пытанне, якое задае ў сувязі з гэтым Г. Пашкоў, ніколькі не рытарычнае: "Мілыя, харошыя людзі, як жа вам мала трэба за вашу працавітасць, дабрыню! І чаму гэта нашы сродкі інфармацыі кінуліся раптам праслаўляць розных прайдзісветаў, дзялкоў ды спекулянтаў, а чалавек, чыімі рукамі дзеюцца зямныя даброты, раптам застаўся па-за ўвагай?"

"Палескія вандроўнікі" — найперш пада-

(1990) і аповесці "Скарына на Градчанах" (1990). Гэта адны з лепшых гістарычных твораў у беларускай літаратуры. Абапіраючыся на дакументальныя матэрыялы, мастацкую інтуіцыю і фантазію, аўтар змог яскрава раскрыць вобразы Янкі Купалы і Францыска Скарыны, выявіць каларыт і дух тых часоў, калі яны жылі.

Шэраг цікавых меркаванняў выказаў даследчык пра выданне твораў А. Лойкі пра Янку Купалу і Францыска Скарыну на рускай мове ў вядомай серыі ЖЗЛ. Заслугоўвае ўвагі думка Г. Сіненкі аб тым, што пры абмалёўцы вобраза В. Ластоўскага хацелася б бачыць больш фарбаў, а не толькі адну, негатыўную. Даводзіцца шкадаваць, што аўтар мала ўвагі адвёў трэцяй, дапрацаванай рэдакцыі рамана-эсэ "Як агонь, як вада" (1992).

Удала завяршае манаграфію заключны раздзел, дзе звернута ўвага на "Выбраныя творы ў двух тамах" (1992), на паэму "Посах душы" (1993), кнігу вершаў "Трэці золак" (1993).

Г. Сіненка сцвярджае, што ў 90-я гады А. Лойка паступова пераключаецца на пазіцыі нацыянальнага адраджэння. Ён па-новаму падае гісторыю беларускага народа і яго культуры, праблему двухмоўя, інтэрнацыяналізму і дружбы паміж народамі. Аўтар даследавання ставіць А. Лойку побач з В. Быкавым, Н. Гілевічам, Р. Барадуліным, С. Законнікавым. Аднак, нам падалося, адраджэнскі пафас гэтых літаратараў у манаграфіі пададзены з пэўным адмоўным адценнем, паводле ранейшых савецкіх уяўленняў. Думаецца, што так званы беларускі нацыяналізм трэба разглядаць як патрыятызм, як станоўчую з'яву.

У кнізе разглядаюцца вершы А. Лойкі пачатку 90-х гадоў "Балюча край знялюблены любіць", "Мітынгуем", крычым, енчым зноўку", "Песня родная вам, як чужая", "Я ведаю: баяцца лідэра", "Бацька народаў" і іншыя. У іх добра раскрываюцца істотныя рысы духоўнага стану ў беларускім грамадстве канца XX стагоддзя, асуджаецца антычалавечнасць савецкай імперскай сістэмы з яе таталітарызмам, выяўляюцца трывога і боль за лёс роднага краю.

І ў гэты час паэзія А. Лойкі надзвычай багатая і разнастайная. Шырокі дыяпазон і яго навуковага зацікаўлення. У кнізе згадваецца, што ён падрыхтаваў для студэнтаў ВНУ падручнік па гісторыі старабеларускай літаратуры, адзначаецца, што паэт знаходзіцца ў няспынных творчых пошуках.

Г. Сіненка паказаў разнастайнасць і унікальнасць асобы А. Лойкі, адзначыў універсальнасць і энцыклапедычнасць яго ведаў, раскрыў эстэтычную каштоўнасць, гуманістычны змест і патрыятычны пафас яго твораў.

**Анатоль ВЕРАБЕЙ**

---

рожны дзённік, але відавочна і тое, што аўтар перад дарогай добра пазнаёміўся з літаратурай пра мясціны, знаёмства з якімі і стала мэтай плавання. На карысць гэтага сведчаць даволі вялікія вытрымкі, што прыводзяцца з вядомай "Живописной России", а таксама з "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі" Паўла Шпілеўскага з яго развагамі аб адметнасці беларускай мовы, яе непаўторнасці, той любові да яе, што захаваў і пранёс у сэрцы.

Да ўсяго Г. Пашкоў дае пазнавальную інфармацыю наконт таго, як у розныя часы выказваліся меркаванні аб непаўторнасці і нерушавасці Палесся, у тым ліку і Беларускага. Цікавыя і згадкі пра тое, як у Вялікую Айчынную вайну 1-ая гітлераўская кавалерыйская брыгада (адзіная ў нямецкіх узброеных сілах), што ўваходзіла ў склад танкавай групы Гудэрыяна, не магла пераадолець перашкод, што ўзніклі ў тамашніх мясцінах на яе шляху: "Звыклая да добрых дарог, нямецкая конніца з яе цяжкой тэхнікай загразла на мокрых прасёлках сярод рэдкіх паселішчаў. На Палессі немцы прыкметна адсталі ад сваіх войскаў, якія ішлі абмінуўшы гэтыя мясціны. Быў захоплены Смаленск, далёка вырваліся, узяўшы Ельню, падступілі да Кіева, а ўсцяж Прыпяці ўтварыўся небяспечны калідор, які кантралявалі нашы войскі".

Увайшлі ў кнігу і дарожныя запісы "Ля ціхага акіяна", у якіх Г. Пашкоў дзеліцца ўражаннямі ад паездкі ў Паўднёвую Карэю. І гэты нарыс напісаны ўсхвалявана, багаты на цікавыя аўтарскія назіранні, якія паспрыяюць чытачу ў знаёмстве з гэтай краінай, якая пакуль беларусам малавядомая.

Тым не менш, усё ж згадкі з палескіх дарог, а правільней — палескіх водных шляхоў — нясуць у кнізе асноўную нагрузку. Ды і мастацкае афармленне "працуе" на іх. А ўвогуле ў кнізе выкарыстаны фотаздымкі Г. Бажанкова і самога Г. Пашкова, узята для друку высокагатунковая папера.

Як кажуць, і чытаецца, і глядзіцца. І ўпэўніваешся, кажучы радкамі аднаго з вершаў Г. Пашкова, што спадарожнічае чарговаму здымку, на зямлі яшчэ "ёсць шчасце світальных дарог".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК КРЫТЫКА

# Дзве каруселі

## СПРОБА ПАРАЎНАННЯ

*Аркадзь Куляшоў. "На рубяжы апошніх дзён..." Вершы. "ЛіМ", 5 лютага 1999 г.*
*Аркадзь Куляшоў. Выбраныя творы ў 2 т. "Беларусь", 1964, т. 1, с. 27.*

Нізка вершаў, надрукаваная сёлета ў "ЛіМе", найбольш уражвае датай, якая стаіць пад ёй: 3 лютага 1978 г. Нясвіж. Назаўтра — 4 лютага — Аркадзя Куляшова не стала. Жыццёвая карусель працягвала сваё кружэнне, але ўжо без яго... Можа, таму ўся гэтая нізка, прасякнутая смуткам і філасофскім пераасэнсаваннем не толькі асабістага лёсу, уражвае яшчэ і нейкім таямнічым, амаль містычным прадчуваннем неабходнасці такіх падрахункаў, шчырай споведзі і ачышчэння:

***А каб жа, каб па волі ўласнай,***
***Уладарнай сілаю рукі,***
***Мог сцерці ты, як з дошкі класнай***
***Сваіх памылак груз цяжкі:***

***Пакуты, горыч, што не могуць***
***Цябе пакінуць на зямлі,***
***Што не самохаць і самохаць***
***На плечы некалі ляглі.***

А. Куляшоў жыў у абставінах, якія мала спрыялі творчасці і творцу. А між тым ён быў адным з нямногіх паэтаў, каго Бог надзяліў не толькі здольнасцю лёгкага рыфмавання, але і маштабнасцю светабачання, магутнай фантазіяй і аналітычным розумам. На жаль, гэты вялікі патэнцыял у многім застаўся незрэалізаваным. Самохаць і не самохаць...

Думаецца, што трагічнае ўсведамленне гэтай незрэалізаванасці і спараджае тое "цёмнае мучэнне на рубяжы апошніх дзён", якое не проста вяртае паэта ў мінулае, а прымушае пераасэнсоўваць яго і перапісваць з іншага пункту гледжання.

І зусім невыпадкова нараджаюцца страфы другой "Каруселі", якую ад першай (напісанай таксама ў лютым, толькі 1939 года) аддзяляе цэлае жыццё.

Хрэстаматыйна памятнае куляшоўскае мястэчка, "дзе штогод бываюць кірмашы", дзе кружаць разам на маляўнічай каруселі старыя школьныя сябры, у новым вершы набывае іншае аблічча:

***Як музыкі граюць, б'юць літаўры, —***
***Мабыць, "Во саду лі ў агародзе", —***
***Паліцы ўгару ўзнялі кентаўры —***
***Кружыць барадатае страхоцце.***

***Ліхтары начныя свецяць збоку,***
***Прадаюць піражнае з бляшанкі, —***
***Выплываюць зданямі са змроку***
***І знікаюць зноў у змрок тачанкі.***

Які дысананс у адчуваннях, эмацыянальнай настроенасці і вобразнасці ў параўнанні з тым, што было:

***Добры дзень, знаёмыя мясціны,***
***Карусель, крылатая душа!..***
***Гай шумлівы, гоман кірмаша,***
***Печанага хлеба водар кмінны.***

Тут, у гэтай першай "Каруселі", былі дасканала адчутыя і перададзеныя юначыя аптымізм і эгацэнтрызм, што змушаюць успрымаць навакольны свет створаным нібыта толькі для тваёй радасці і шчасця. Той праканетны дух маладосці, які знайшоў адбітак у вершы А. Міцкевіча "Ужо сышоў з нябёсаў ночы змрок сумотны" і ў ягонай славутай "Одзе да маладосці", і таксама ў куляшоўскіх "Арлянятам". Гэтую юначую акрыленасць і пагодлівую гармонію духу тагачаснага і пазнейшыя савецкія крытыкі змушаны былі называць "новай паэтычнай рэчаіснасцю сацыялістычнага свету", цудоўна разумеючы яе натуральныя спрадвечныя вытокі.

"Карусель" 1939 года — гэта гімн маладога паэта духу маладосці. Гэта вобразна-пластычны верш перадусім адчуванняў і эмоцый, а не думак і абагульненняў. Вобраз каруселі тут не больш як маляўнічая дэталь, якая набывае зусім іншае маштабнае значэнне ў новым творы, напісаным у Нясвіжы.

Перадсмяротны верш "Карусель" напісаны Аркадзем Куляшовым у Нясвіжы, — найлепшае сведчанне духоўнага і творчага развіцця яго асобы, удасканалення паэтычнага майстэрства, паглыблення маштабнасці светаўспрымання. Назва твора робіцца тут скразной метафарай. Вобраз каруселі набывае ў гэтым вершы абагуленае філасофска-сімвалічнае значэнне. Карусель — гэта сімвал цыклічнага кругабегу жыцця, дзе адны карціны і падзеі змяняюцца другімі, дзе сціраюцца межы паміж пачаткам і заканчэннем руху, і сам рух з'яўляецца ці не імітацыяй бегу на месцы ў дачыненні да аб'ектыўна бясстрасных, бо вечных, прастораў і часу.

Індывідуальнае чалавечае жыццё з яго бедамі і радасцямі, суб'ектыўнымі і аб'ектыўнымі праблемамі існавання ў канкрэтных гістарычных умовах канкрэтнага месца і часу — гэта толькі маленькая кропелька вялізнага акіяна, дзе тым не менш дакладна адбіваюцца ў мініяцюры няпростыя шляхі чалавецтва, пачынаючы з замглёных часоў яго прагісторыі да не менш туманнай будучыні...

Пачынаецца гэты шлях светла і радасна, як толькі можа быць у дзяцінстве, — "марамі аб шчасці" і незвычайнай прыгажосці. Але гэтая першабытна-дзіцячая гармонія светаўладкавання азмрочана набытым вопытам і веданнем сваіх памылак і памылак папярэднікаў, таму і падаюцца першыя страфы твора ў форме рытарычна-тужлівага пытання-ўспаміну:

***Дзе ж, дзе майго маленства коні,***
***Паскакалі без мяне куды вы?***
***Больш не чутна за спіной пагоні...***
***Дзе спынілі вы свой бег імклівы?***

***Шэрай, варанай, чырвонай масці***
***Даўняга дзяцінства пабрацімы,***
***Дзе вы зніклі, з марамі аб шчасці,***
***З сёдламі на спінах залатымі?***

Гэтак імклівa, з разбегу чытач нібыта ўключаецца ў кружэнне спрадвечнай жыццёвай каруселі, падабенства з рухам якой аўтар свядома падкрэслівае рытміка-інтанацыйнай будовай верша, дзе чаргуюцца эмацыянальныя ўзлёты і спады.

Узвышаная інтанацыя першых чатырох строф з настальгічнымі згадкамі пра дзіцячыя мары і спадзяванні рэзка ападае ў наступных радках, дзе прадстаўлена (ужо цытаваная мной) атмасфера змрочна-сімвалічнага жыццёвага кірмашу. І тут вельмі наглядна выявілася яшчэ раз унікальная здольнасць Куляшова-паэта: надаваць зрокавай канкрэтыцы прыземленага вобраза абстрактна-філасофскую маштабную абагуленасць. "Піражнае з бляшанкі", "літаўры", "тачанкі", "Во саду лі ў агародзе" — канкрэтныя дэталі тагачасных сапраўдных кірмашоў і разам з тым выразная сімволіка таго часу.

Але як несупынны рух жыцця, так несупынны і бег куляшоўскай каруселі, якая пасля чарговага зніжэння набірае новую вышыню:

***Коні, коні, мары парыванне,***
***Ваш стракаты рух, замкнёны колам:***
***Вечнае не скончыцца паланне,***
***Сонечным не сцерціся падковам!***

Стыхійныя сілы жыцця, гэты "стракаты", "замкнёны колам" рух настолькі магутныя і прыцягальныя ў сваёй непрадказальнай таямнічасці, што супрацьстаяць іхняму напору немагчыма. Яны даюць ілюзію пераадолення той мяжы, што "запраграмавана на справы ўсе твае і дні", і якую, паводле А. Куляшова, калі і здольны хто пераадолець, дык толькі творца.

Калі не пераадолець, дык хаця б паспрабаваць зрабіць гэта:

***Ухапіцца б мне рукой за грыву,***
***На сядло б ускочыць мне з разгону***
***І ляцець пад музыку імклівa,***
***І кружыцца б гэтак — аж да скону.***

***Каб плылі ў вачах гарачых плямы —***
***І нічога больш ужо не трэба!***
***Ты ляціш над полем, над лясамі***
***І над гарадамі проста ў неба.***

Тут куляшоўская карусель зноў на ўзлёце і прыводзіць згадкі не толькі пра міфічнага Пегаса, але і пра імклівы лёт у небе гэроях шагалаўскіх карцін. Але чытач ужо падрыхтаваны да чарговага спаду, да заключнага акорда з яго шчымлівай тугой аб разбітых ілюзіях, няспраўджаных надзеях індывідуальнага чалавечага лёсу (можа быць, і мастакоўскага) у гэтым кірмашовым гомане і каруселыным кружэнні быцця:

***Праплывае міма пабрацімства,***
***Коні, коні дыхаюць гарача.***
***Каруселі кружаць; а дзяцінства***
***Убаку стаіць маё — і плача.***

**Галіна ТЫЧКА**

---

ДРУК

# Чым парадуе "Беларуская навука"?

З'явіўся тэматычны план выпуску літаратуры выдавецтва "Беларуская навука" на 2000 год. Лёс кніг, пазначаных у ім, у многім залежыць ад таго, колькі будзе сабрана папярэдніх заказаў. Яны ж збіраюцца на працягу 120 дзён з часу трымання плана кнігарнямі і накіроўваюцца ў галаўныя арганізацыі ці непасрэдна ў выдавецтва. А заказаць ёсць што, хоць план і не такі багаты, калі параўнаць з колькасцю кніг, якія некалі выходзілі штогод у выдавецтве "Навука і тэхніка", пераемнікам якога з'яўляецца "Беларуская навука".

Мяркуецца завяршыць выпуск "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя". У апошнім, чацвёртым томе разглядаецца літаратурны працэс з 1956 па 1995 год. Поруч з аглядным артыкуламі змешчаны творчыя партрэты У. Караткевіча, Р. Барадуліна, І. Чыгрынава, В. Адамчыка, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, А. Кудраўца, П. Макаля, Б. Сачанкі, В. Зуёнка, В. Казько і іншых пісьменнікаў. Я. Гарадніцкі ("Псіхалагічная матывацыя паэтычнай творчасці") упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве прасочвае сувязь паміж мастацкім мысленнем і падсвядомымі творчымі імпульсамі, аналізуе комплекс узаемазвязаных прычын і абставін, што абумоўліваюць тыя ці іншыя мастацкія вырашэнні. У працы Г. Кісліцынай "Лірычная мініяцюра" разглядаецца гісторыя беларускай мініяцюры на працягу XX стагоддзя — "Лірычныя абразкі пачатку стагоддзя: Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, З. Бядуля", "Лірычная мініяцюра 50—70-х гг.: Я. Брыль, Ф. Янкоўскі", "Эсэістыка канца стагоддзя: У. Арлоў, А. Разанаў, Л. Галубовіч". "Інтэлігенцыя ў пошуку духоўных ідэалаў (на матэрыяле беларускай літаратуры XIX — пач. XX ст.)" — тэма даследавання В. Жураўлёва. У яксаці прадмета гаворкі вядомы літаратуразнаўца выкарыстоўвае творы Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, З. Бядулі, М. Гарэцкага, Я. Купалы, Я. Коласа і іншых. Упершыню, а галоўнае па-новаму, В. Жураўлёў асэнсоўвае складаны і супярэчлівы працэс развіцця і складвання духоўнага ідэалу. Несумненна, многіх зацікавяць кнігі Алены Яскевіч "Філалагічная культура старабеларускай кніжнасці XV—XVII стст." і Л. Савік "Літаратура беларуская замежжа. Нарысы жыцця і творчасці беларускіх паэтаў". У апошняй прадстаўлены імёны Н. Арсенневай, У. Дудзіцкага, Я. Золака, Х. Ільяшэвіча, М. Кавыля, Р. Крушыны, У. Клішэвіча, А. Салаўя, М. Сяднёва, Я. Юхнаўца і іншых.

Па раздзеле "Гісторыя. Археалогія" запланаваны такія кнігі, як "Археалогія Беларусі", т. 3; "Гісторыя сялянства Беларусі. Са старажытных часоў да 1996 г.", т. 3, заключны; "Заслаўе ў XVI ст." М. Спірыдонава. Прадстаўлены і іншыя аўтары: А. Калечыц — "Чалавек і асяроддзе ў каменным веку Беларусі", В. Шадыра — "На беларускалатышскім парубежжы ў V—XVI стст. (гарадзішча і селішча Пруднікі)", Ю. Бохан — "Узбраенне войска Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XIV— канцы XVI ст.", М. Сокалава — "Грамадска-палітычны рух у Беларусі ў 19 стагоддзі. Гісторыка-метадалагічны аналіз", С. Рудовіч — "Напрадвесні дзяржаўнасці. Беларускае пытанне ў рэвалюцыі 1917 года".

У планах "Беларускай навукі" значацца і выданні па праве, экалогіі, філасофіі, сацыялогіі, іншай праблематыкі.

**Н. К.**

ПРОЗА

*Упала ў крыніцы вод зорка. Імя той зорцы — Палын. І вымерла трэцяя частка ўсіх людзей, бо воды зрабіліся горкія.*
**Апакаліпсіс. Гл. 8, стар. 11.**

Яўген ЦУМАРАЎ

# СЛЯПЫЯ

АПАВЯДАННЕ



Іх вялі, выпадала, на пагібель. Калі міналі гарадскую браму, войт, рагочучы, вынес свой загадкавы вырак: пакінуць жыць немагчыма, але забараняю ганьбаваць збройнае жалеза крывёю нікчэмных прыблудаў.

Доўга і марудна ішлі. Да слёз акалелі ў сцюдзёным прысценку колішняга знаёмца арандатара Цімолі, пакуль салдаты грэліся ў святліцы моцнымі напоямі. Пазней спыніліся ў нейкай глушэчы, прадчуваючы, што цяпер, відаць, — усё!..

Яны, чацвёра, хто ўжо мусіў прымірыцца з непазбежнасцю гвалтоўнай смерці, разам, нібы даючы нырца, прагна ўхапілі ў грудзі паветра, пачуўшы, як настылае жалеза корда праццяла мяккае і лёгкае цела сіраты-павадыра. Сляпыя з жудасцю ўслухоўваліся, як апошні выдых іх відушчага хаўрусніка адлятаў ад раскрыжаванага на шорсткай траве цела.

Хвіліну ўсе, нават забойцы, маўчалі, паважаючы смерць. Сівер завываў у бязлістым вецці дрэў, студзячы на вуснах асуджаных нямыя словы літання. Неўзабаве, спатыкаючыся і бездапаможна пакешкаўшыся на куп'істым імшары, яны ў чаканні здранцвелі, выглядаючы абабранымі ды кінутымі бадыллямі бабоўніку.

Іх так і пакінулі на балоцістым узлеску на неміну́чую пакутлівую згубу ад холаду ды голаду, на глум драпежнаму зверу альбо здзічэлым сабакам, якіх развялося ў раскіданых людскіх гнёздах пад Магілёвам у тыя крывавацечныя часы безліч...

Розгалас пра паходы самаабвешчанага заступніка лёзных людзей Севярына Налівайкі на чале рознапляменнага войска-вольніцы другое лета абягаў Магілёўскае староства. А цягам доўгіх гадоў у гэтым выклятым Богам краі стогны людскія разам з дымам папаленых вёсак разносіліся ветрам па абсягах спустошанай войнамі, паборамі ды іншымі безупыннымі пошасцямі эканоміі.

Ацалелы люд не меў моцы болей трываць і быў гатовы ўліцца ў вызвольны рух ды пайсці за кожным, хто абяцаў даць волю ды збавенне ад панскае крыўды. У цёмных гаях, дзе наліваліся сокам, каб неўзабаве набрыняць крывёю, мачугі і дзе колісь валадарыў дзікі звер, сыходзіліся барадатыя ўцекачы ці не з усяе крывіцкае зямлі: даннікі, вольнікі, мяшчане, чаляздзіны. Па ацалелых ад вайны кузнях не сціхаў перастук жалеза, курадымілі па лясах гуты.

У мінулае лета з ваколіц Быхава даляцела вестка: атрады Голага і Мацюшы, атаманаў мужыцкага войска, пускаюць дымам магнацкія вотчыны, а разам і двары вольнай шляхты, пазбаўляюць жыцця і маёмасці лаўнікаў, радцаў ды шматлікіх іншых службовых людзей. Пасля з Наворнага пасаду, спаконвечнага старога Магілёва, па дванаццаці вуліцах-промнях на ўсе прадмесці патрапіць навіна: узяты ў аблогу самім Налівайкам Слуцак. У супацьлеглы бок пацячэ людская рака. Пойдзе-рынецца на Нагорны пасад узрушаны мяшчанскі люд: рымары, шаўцы, скрыпнікі, цесляры, ганчары, шапавалы...

Такога ніхто не чуў-не ведаў: апрануўтыя ў жабрачыя гуні магілёўскія сляпыя, маючы за душою хіба што кій, гаваркое слова ды цягучую песню, раптам згуртаваліся ў брацтва і абралі ўласных старшынь-радных. Штодня, змовіўшыся, выпраўляліся то на Вал — гандлёвую плошчу, то разбрыдаліся па прадмесцях, шынках, мястэчках і ў казанях ды песнях вялі апавед пра гаротнае людское жыццё.

Кожны кірмашовы дзень на Вале вакол сляпых тоўпіўся народ — узбуджаны, гарачлівы: халупнікі і найміты, рукадзельныя людзі і дробная шляхта, грэчкасеі. Азіраючыся на прыцiхлую варту каля двухвежавага замка, прагнулі не толькі пачуць, але і прамовіць сваё скупаватае важкае слова. А потым, аж да наступнай пятніцы, сляпых з павадырамі сустракалі на пыльных шляхах усяе Магілёўскай эканоміі.

Відавочна, улада пакуль што пабойвалася іх чапаць. Войт, сабраўшы ў кулак гайню служак, каб кінуць іх напярэхапы сейбітаў смуты, раптам адступіцца. Збаяўшыся гневу мяшчан, прыслухаецца да перасцярог бурмістраў, а найбольш да слоў айца святой царквы: "Вера, царпліваcць і цвёрдасць памнажаюць мудрасць святога ордэна езуітаў. І непахісны закон зямлі і неба: калі сляпы вядзе сляпога, то абое ўпадуць у яму..."

**Каган:**
— Ты, Пінчук, казаў, нібыта на ловах у маладыя леты зрок страціў. Ды нюх, што вяпрук, маеш... Вядзі нас!
**Дзед:**
— Паляжам тут, што карчы на балоце...
**Каган:**
— Не замай, стары!
**Пінчук:**
— Ліхая долечка пяткі ліжа. Мы што? Шыгалле! Карміў цябе, пане падлоўчы, лес, а і плоць тваю возьме.
**Каган:**
— Дайце рады, умерці паспеем. Вывывецьмем на пострах нелюдзям. Хлеб у мяне ёсць.
**Дзед,** *горка пасміхнуўшыся:*
— Хлеб ваўчару не пакінем. З'ямо самі.
**Варлам,** *услухоўваючыся ў далеч да звону ў вушах:*
— Ці чуваць брэху?
**Пінчук,** *іранізуючы:*
— Як у святой пісані сказана: перад сконам чуў грэшнік брэх стварэння зямнога...
**Каган:**
— Эх, каб хоць адно вока на чацвярох!
**Пінчук:**
— Ці дзве разумныя галавы.
**Каган:**
— Адна, мяркуеш, ёсць?
**Дзед:**
— З вамі і ўміраць лёгка. Ды завошта смерць прыняў хлапчук-бедалага? Адальюцца ім слёзы сірочыя! Цёмна людзям жыць, а і небывалая цемрадзь падступае.
**Варлам,** *з узрушэннем:*
— Ці чуеце брэх?
**Дзед:**
— Ты, браце, кніг некалі начытаўся. Мніхам, кажуць, быў. Ці не баліць у цябе галава?
**Варлам:** *спатыкаючыся, рушыў туды, адкуль данеслася скавытанне сабакі:*
— Браткі! Мы яшчэ выйдзем на крыжавыя дарогі!
**Каган,** *міжволі памкнуўшыся следам:*
— То ж сабака, ягоны павадыр!

...Лес скончыўся. Сляпыя спыніліся, разумеючы, што, выбіўшыся са звярыных сцежак у людныя мясціны, яны наўрад ці ўнікнуць небяспекі. Уладаю вайсковага камісара староства — пра гэта ведалі чацвёра змардаваных дарэшты людзей — беспрытульных пры дарогах заўзята пільнуюць атрады нанятых гайдукоў ды без прычасця смяротна караюць, выпальваючы ў краі рэшту леташняга бунтарскага духу. І, што яшчэ горай, на шляхах трапляюцца гурты ўпітай крывёю і нікому не падуладнай шляхты з разбураных паўстаннем вотчын. Шмат хто прагнуў помсты за свае страхі і крыўды ў часе ганебных уцёкаў у мінулую восень і зіму, калі казацкія шыхты Севярына Налівайкі падступілі да Магілёва.

Тады хмельны кубак волі адчайна выпіў, здаецца, кожны бяздольны жыхар староства. Як заўсёды, не задумваючыся, што прынясе яму дзень заўтрашні. Ды вось ён настаў: сумны, крывавы, жорсткі... Здарылася так, што махлыга-Налівайка, ушчэнт паруйнаваўшы гарады і мястэчкі, збег з казацкай дружынай у перакаці-поле разам з багатай здабычай. І на поўдні Княства, па чутках, быў злоўлены і чвартаваны згодна з каралеўскім "прывілеем". А крывіцкі люд, безаглядна кінуўшыся, як начныя матылі, у агонь вызвольнага руху, застаўся неўзабаве сам-насам з бязлітаснай сілай добра ўзброенага наёмнага княжага войска.

І з тае пары крывавая малацьба доўжыцца на абшарах староства. Крыўда прырастае крыўдай, бяда вядзе бяду, зло цвеліць зло. Небяспека, здаецца, прытаілася паўсюль, дзе яшчэ ацалелі людзі. Лясныя шаты — апошні, бадай, надзейны схоў ад нелюдства. І воўк — адзіны неспадзяваны таварыш.

**Пінчук:**
— Рушым?
**Дзед:**
— У яму да вознага, у пельку ці "чортава вока", альбо на глум зверу — выбірай, што болей люба.
**Каган:**
— Без людзей, як ні ёсць, пагібель. Невідушчых і святы Майсей не зрушыць весці ў зямлю абетаваную. Сляпыя — Бога не імаюць.
**Пінчук:**
— Прэч з гэтага тройчы выклятага краю! Не ў зямлю абетаваную, дык у трохі хлебную — да людзей.
**Каган:**
— А дойдзем — як? Хлеба — няма. Вады — падасць хто? Абагрэць азяблае цела немаль дзе. А дарогі — на іх старая з касою. І дзе запабеглым пошасцяў зямлі? Ці не ўсюды ў Княстве — нежыць, згуба, бясхлебіца, мор?!.
**Варлам:**
— І вучыць ён нас, мудры вяшчун: "Душа ёсць не што іншае, як чалавечае жыццё". "Шукайце корань, — заве ён нас. — Без кораня і палын не расце..."
**Пінчук:**
— Ён што, дайшоў?
**Варлам:**
— І клічаш ты нас, мудры Сымоне: "Дай нам Бог такую ўладу, пры якой мы не думалі б аб сабе, не ўніжалі іншых, дазвалялі гаварыць праўду адзін аднаму, не лічылі б сябе непагрэшнымі".
**Дзед:**
— Я чуў гэтую казань на Вале. Гэта словы Буднага!
**Пінчук:**
— Хіба нас Будны накорміць? Дарогу пакажа?..
**Каган:**
— Кажы далей!
**Варлам:**
— "Трэба, каб у нас была воля гаварыць аб боскіх справах не толькі вучоным, але і простым людзям... не толькі багатым, але і бедным..!" — так кажа Ён.
**Пінчук:**
— Каб мая воля, усе кнігі пра Бога — на распал! Няма праўды, няма і Бога!.. Хрыстос — ён хто? Блазан!.. Ці праўду кажуць мніхі? Галаўнік — на зямлі бог і пан.
**Варлам:**
— І пытаўся Ён нас: "Хіба можа быць прызнанай улада, якая хоча закрыць рот, ааднаму ці тром дазваляе распускаць лейцы, каб тварылі, што пажадаецца ім?.."
**Пінчук:**
— То што ж гэта трывае Хрыстос?
**Варлам:**
— "Хрыстос, — вучыць Ён, — гэта не Бог, а толькі талмач Бібліі".
**Каган:**
— І што ж кажаш ты, Будны раўня Хрысту?!.
**Варлам:**
— Я не казаў гэтага.
**Дзед:**
— Але ж і ён — талмач.
**Каган:**
— Слухайце мяне: ідзём да Буднага!
**Пінчук:**
— А куды?
**Варлам:**
— Туды, дзе шлях на Навагра́дак, зямля Крэўская, у Вішнева.

Добра ўтаптаная сцяжына вяла да ялані, на якой, магчыма, было жытло, абруба сярод лесу. Нарэшце сабака-павадыр спыніўся, тулячыся да ног Варлама. Зморания хадакі пераняці ў пошуме лесу нязвыклыя трывожныя гукі ды адчулі едкі смурод — сведчанне небяспекі. Павеяла кіслым духам паленага ў макрэдзь дрэва — гэта быў знак варопу і пажару. Варлам шапнуў:

— Сабака чуе нядобрае... Ці не ягло, дух мярцвяцкі?

Неўзабаве выбраліся з зарасніку на ялань, спадзеючыся, што небяспекі няма: баяцца трэба не мёртвых, а жывых. Счакалі, бо сабака, абабегшы котлішча, кінуўся наталяць голад нежывою, відаць, хатняю гавядою.

Пасля патупалі, натыкаючыся на друз, абпалкі, рэшту сялянскага начыння. Галавешкі слаба курадымілі, калі чыясьці нага ступала па пагарэлішчы. Жывы чалавечы дух выветрыўся, і едкі саладжавы пах сведчыў, што пагарэла ўсё — і сабраны ўраджай.

Каган адразу адзначыў, што так смуродзіць менавіта палены хлеб. І яго непакоіла гэта: хлеб паляць хіба што разам з людзьмі, калі лютасьці чалавечай няма межаў.

— Мусіш зайздросціць сабаку тут, — у роспачы вымавіў Пінчук і дадаў раздражнёна: — Гэй, Дзед, ці знайшоў што?

— Бадай што вячэру маем. Варыва ў печы ў сагане ацалела, заклякла трохі, як гліна... Ад засланкі, во, толькі згарэла.

— Не выцягні за хвост з падпечча падсмажанага ката, — ажывіўся Пінчук.

— Кажу я вам, людзі тут пагарэлі, — загаварыў Каган. — Не рушце, хрысціяне, нічога ў хаце.

— Людзі!?.

Памаўчалі. Жудасцю павеяла ад руін сялібы. Мроілася: з вечнасляпога цемрыва паўставалі, стогнучы, пагарэльцы, мерцвякі-наўе.

— Здымем шапкі перад гасціннымі гаспадарамі... Во, у хату пусцілі.., — раптам кінуў свой занятак Дзед, абводзячы запалымі вачніцамі папялішча.

— Шапкі здымем, хай хлеба дадуць, — бурклівa азваўся Пінчук.

— Прыйдзе, прыйдзе дух жытнёвы — жыцень. Дзе спіць жыцень? У свірне, у яме, дзе ратай прыхоўвае насенное збожжа. Там пажар яго не дастане. Дзе спіць жыцень, там і ратунак наш, кажу вам! — абвясціў Каган.

Усе, і сабака, нібы вызнаўшы, куды кіруюць людзі, — кінуліся туды, дзе прытаіўся жыцень.

— Ёсць хлеб, ёсць!.. — Ёсць! — азваўся рэхам лес.

Блуканне з дня ў дзень сам-насам з вечнай цемрай па бязлюдных пуцявінах, люты холад па начах, жахлівы прывід галоднае смерці — прагорклага на пажарышчы зерня ў торбах хапіла ненадоўга — усё гэта вымушала хадакоў, рызыкнуўшы, пашукаць прыстанку. Яны выбраліся на ўходжаныя шляхі на папалавах і пералесках Бярэзінскай раўніны. Было спадзяванне патрапіць ля ракі на рыбацкі схоў, да ацалелай гуты ці прыбіцца да хаціны паляўнічых. Не шкодзіла запасціся ежай, займець такую-сякую адзежыну, абагрэцца. Калі пашчасціць, то і напрасіцца ў спадарожнікі да пасялянвазніцаў альбо займець павадыра.

Трэба было кіраваць уверх па Бярэзіне да Барысаў-горада. Адтуль, не тоячыся, можна было выходзіць на гандлёвыя шляхі-дарогі.

Змарнелы сабака-павадыр, як звычайна, валюхаўся паперадзе. За ім, трымаючыся за матузок, клыпалі па чарзе то Варлам, то Дзед, то Каган. Апошнім заўсёды брыў бурклівы Пінчук. Яго неўзлюбіў сабака — можа, чуў у чалавеку злосніка. На зыходзе дня высунуліся на ваколіцу паселішча. На добры розум, трэба было счакаць ночы: бадай, у цемры сляпы відушчаму раўня. Але самотныя, прывідныя дні і ночы прытупілі пільнасць, і Каган неўзабаве выправіўся з сабакам шукаць спагадлівага чалавека.

Насцярожвала якаясьці нежылая цішыня. Нудзіла галоднае нутро. Нібы каменныя жорны, прыцiскала да зямлі стома.

Раптам з паселішча пачуўся конскі тупат, сабачы енк і грымотныя ў начы гаслыя паветры мужчынскія галасы. Хутка ўсё і ацiхла. Сляпыя чакалі — іншага не ставала.

*(Праця́г на стар. 14—15)*



**ЧАСАПІС**

## *У нямецкім Людвігсгафене*



**Не першы раз прывозіла свае карціны нямецкім аматарам прыгожага Вольга Даманава, але ў г. Людвігсгафене яна была ўпершыню. Як распавядалі нямецкія газеты, у замку Кляйнідэсгайм у нядзельны дзень перад абедам пад музыку Эмануэля Баха адбылося адкрыццё фантастычных карцін невядомай для нямецкай публікі мастачкі з Беларусі. Яе работы выпраменьваюць спакой, гармонію колеру і тэхнікі. "На вялікай карціне мы бачым цудоўныя фарбы, чалавека працы, неба, зямлю і ваду ў сугучнасці", - пісалі нямецкія мастацтвазнаўцы.**



**Вольга Даманава скончыла Мінскае мастацкае вучылішча (1978) і тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Асноўным відам яе творчасці з'яўляецца жывапіс, хаця з 1981-га па 1990 год яна працавала ў прамысловым дызайне, кніжнай графіцы і актыўна займалася плакатам. У гэтай галіне яна дамаглася пэўных вынікаў — прэмій у Маскве (1985), Сафіі (1988), Варшаве (1988). Потым займалася толькі жывапісам. Атрымаўшы добрую рэалістычную школу, паступова ад рэалізму перайшла да сюррэалізму. У пачатку гэтага творчага шляху — сімволіка-алегарычнае асэнсаванне сучаснасці: серыя з дзевяці работ "Успаміны аб Русі" (1989). У карцінах "Вежа (1991), "Бег" (1994), "Прысвячаецца Магелану" (1993), "Збіральнікі сухога галля" (1994) —**



**вялікая цікавасць мастачкі да гісторыі рускай праваслаўнай школы іканапісу. Вольга Даманава ўдзяляе вялікую ўвагу сюжэту, часта прымяняе складаную вобразную мову, сімволіку. Карціны напісаны чыстымі выразнымі фарбамі, якія перадаюць каларыт старажытнай іконы, напоўнены філасофскай мовай. Пачынаючы з 1995 года мастачка вялікую ўвагу аддае святлу і ўнутранай пабудове карціны. Аснова аб'екта — чалавек і яго ўнутраны свет. Гэта відаць у карцінах "Малітва" (1996), "Анёл", "Сон у месячную ноч" (абедзве 1997), "Дабравесце" (1998). У іх Вольга Даманава знаходзіць свой асабісты стыль, які ўжо нельга залічыць да сюррэалізму. Цікавыя кампазіцыйныя вырашэнні карціны заваблівіаюць гледача ў другі, створаны мастачкай свет і прымушаюць задумацца аб неперахордных каштоўнасцях.**

**Вольга актыўна ўдзельнічае ў шматлікіх міжнародных выставах: у Польшчы, Германіі (неаднаразова), Францыі, сем з іх былі персанальныя. Я спадзяюся, што і жыхары Мінска ўбачаць карціны нашай мастачкі.**

**Галіна ФАТЫХАВА**

ТЭАТР

# Стагоддзе Гамлета

***Адзін з нашых сучаснікаў заўважыў: "Шэкспіра трэба шукаць і адкрываць..." Напэўна, колькі будзе існаваць на свеце розум, столькі ён будзе імкнуцца раскрыць феномен англійскага трагіка. Шэкспірыяда — гэта бясконцая інтэрпрэтацыя зашыфраваных тэкстаў, пошук ісціны ў бездані слоў.***

Напрыканцы XX стагоддзя трагедыі Шэкспіра ўсё больш нагадваюць летапіс нашай эпохі. Войны, рэвалюцыі, краіны-турмы, тыранія, смерць, вар'яцтва — усё гэта складае праблемнае поле трагедый Шэкспіра. І нашага часу. (Рускі рэжысёр М. Хуцыеў праводзіць гэта стагоддзе хвілінай маўчання.) Сёння рэжысёры тэатра і кіно літаральна раскладваюць трагедыі Шэкспіра на знакі, сімвалы нашага часу. Вобраз Рычарда III англійскі рэжысёр Р. Ланкрэйн спісвае з Гітлера (іх прыход да ўлады сапраўды ідэнтычны: нікчэмны дэмагог Адольф таксама вельмі хутка ператварыўся ў тырана і знішчыў сваіх насмешнікаў). Нездарма яго Рычард носіць чорны эсэсаўскі мундзір і тыя самыя маленькія чорныя вусікі. Фільм "Рамэо і Джульета" амерыканца Б. Лурмана пачынаецца і закальцоўваецца ўключаным тэлевізарам (ці гэта не сімвал нашага часу?!). Трагедыю сем'яў Мантэкі і Капулеці, дзвюх буйных крымінальных груповак, бачыш вачыма тэлежурналістаў. Дынамічны рэпартаж кахання і смерці, трагедыя ў стылі экшн. Але самай папулярнай п'есай Шэкспіра застаецца "Гамлет" (адзін з герояў А. Мэрдак тлумачыць гэты феномен так: "Своеасаблівасць "Гамлета" ў тым, што гэта найвялікшы твор, кожны чытач якога атаясамлівае сябе з галоўным героем"). Кожны акцёр марыць сыграць Гамлета ў тэатры ці кіно. Некаторым удаецца іграць яго ўсё жыццё (напрыклад, У. Высоцкаму — аднаму з Гамлетаў XX стагоддзя). Адна з самых апошніх экранізацый "Гамлета" ў кіно належыць англічаніну К. Брэна. У яго інтэрпрэтацыі сумная гісторыя прынца Дацкага адбываецца ў маляўнічым Эльсіноры XIX стагоддзя. У сімвалічнай люстраной зале, дзе і разгортваюцца ўсе падзеі, жыхары Эльсінора бачаць толькі свае адбіткі.

"Гамлет" зрабіўся знакавым спектаклем адыходзячага стагоддзя. Летась гэтую п'есу ставілі ў Маскве Роберт Стуруа (тэатр "Сатырыкон") і Пітэр Штайн (Тэатр Арміі). У Мінску пастаноўку "Трагічнай аповесці пра Гамлета, прынца Дацкага" здзейсніў Барыс Луцэнка (Рускі тэатр). "Ставіць "Гамлета" — гэта чыстае вар'яцтва. Гэта самае складанае, што ёсць на свеце", — упэўнены П. Штайн. Сапраўды, цяжка ставіць само жыццё, прадумваючы да дробязі кожную яго мізансцэну. Цяжка іграць жыццё. Але для Шэкспіра гэта прынцыпова: "Увесь свет — тэатр. У ім жанчыны і мужчыны — усе акцёры. У іх ёсць свае выхады, сыходы, і кожны не адну іграе ролю". Спектаклі адбыліся. І самае цікавае, што ўсе тры Гамлеты сустрэліся ў Маскве (падчас гастроляў там Рускага тэатра). Уяўляю той вечар, калі ў розных кутках Масквы пачыналіся "Гамлеты": вялікі горад на імгненне ператварыўся ў жудасны цёмны Эльсінор, "быць альбо не быць" крычала рэха.

"Калі мяне пытаюцца, а навошта мне нечакана спатрэбіўся "Гамлет" я кажу пра наш трагічны час, сітуацыі выбару, пра тое, што мы ўсе адказваем на пытанне "быць альбо не быць", — расказвае Р. Стуруа. Вось і Б. Луцэнка ў сваім "Гамлеце" актуалізуе і вылучае з п'есы найперш праблемы палітычнага характару. "Дык нешта пачало гнісці ў Дацкім каралеўстве" — выразна, з падтэкстам гучыць са сцэны Рускага тэатра. Ды і кульгавы забойца Клаўдзій (кульгавасць злучае яго з Рычардам III, а выраз "няхай жыве кароль наш Клаўдзій!" у Луцэнкі гучыць як "няхай жыве кароль ангельскі Рычард!"), які з'яўляецца напрыканцы спектакля ў сучасным пінжаку, сведчыць пра тое, што тыраны не выраздзіліся.

...Гамлета ў спектаклі Луцэнкі можна ўспрымаць ці не ўспрымаць. Высокі, хударлявы з доўгімі валасамі, жаночым тварам і нізкім голасам ён нагадвае аднаго з дзяцей кветак — хіпі. Гамлет у выкананні маладога беларускага акцёра С. Чэкерэса не тыповы, дзіўны, на сцэне ён прыцягвае ўвагу хутчэй сваёй знешнасцю, чым акцёрскім майстэрствам. П. Штайн лічыць, што "Гамлет" — п'еса, якую нельга ставіць, калі ў цябе ёсць усяго толькі свежая канцэпцыя. "Гэтую п'есу можна ставіць толькі тады, калі ў цябе ёсць малады акцёр, за якога ты ўпэўнены, што ён можа сыграць Гамлета" (Гамлет П. Штайна — Я. Міронаў). Луцэнка рызыкнуў — выбраў на ролю Гамлета маладога акцёра. Аднак старыя "навацыі" ў інтэрпрэтацыі п'есы захапляюць яго больш, чым Гамлет і той акцёр, які іграе Гамлета на сцэне.

У першай мізансцэне спектакля адбываецца пахаванне былога караля Эльсінора. Доўгая чарада людзей са свечкамі па



дыяганалі перасякае сцэну, моўчкі спыняецца. Дзверы на падлозе, якія адчыняюцца з жудасным скрыпам, сведчаць пра сімвалічную сувязь жыцця і смерці, яны — уваход у пекла (выходзіць з пекла ці заглядваць у яго будзе Здань, п'яныя далакопы, Гамлет). Аднак пахавальная цырымонія хутка змяняецца цырымоніяй шлюбу Клаўдзія (Р. Янкоўскі) і Гертруды (С. Кузьміна). Постаць Гамлета ўзнікае толькі на імгненне. "Няхай жыве кароль наш Клаўдзій!" — уголас перадражнівае ён прыслужнікаў новага караля і знікае са сцэны, ствараючы мітусню ў Эльсіноры. І знікае нібыта з усяго спектакля. Сумны дэман Эльсінора — Гамлет ператвараецца ў безаблічную здань, якая праходзіць скрозь гледачоў, не пакідаючы ў іх сэрцах свайго адзіноцтва, суму, незадаволенасці жыццём і таго народжанага каварствам дзядзькі дэманізму. "Гамлет чакае, марудзіць, а потым нечакана адразу ўпускае ў сябе зло. І робіць гэта прагна, як дзіця", — адзначае Р. Стуруа. Б. Луцэнку падабаецца выраз Меерхольда: "Здані холадна, а Гамлет хоча яе сагрэць". Але чым можа сагрэць халодная здань Гамлета? Гарэзлівы, палкі, пакутуючы ад сумненяў Гамлет не нараджаецца ў выкананні С. Чэкерэса. "Кажыце, калі ласка, ролю, як я вам паказваў: лёгка і без запінкі, — у п'есе вучыць Гамлет вандроўнікаў-акцёраў. — Калі ж вы збіраецеся гарлапаніць, як большасць з вас, лепш было б аддаць яе гарадскому вяшчальніку. Акрамя гэтага, не пілуйце паветра гэтак вось рукамі, але ўсім карыстайцеся ў меру. Нават у патоку, буры, урагане палкасці вучыцеся стрыманасці..." Б. Луцэнка не паказвае Гамлета ў развіцці (усе сцэны з п'есы перетасаваны, у спектаклі адсутнічае цэласнасць). Часам не разумееш, чаму ён як шалёны бегае па Эльсіноры (сцэнаграфію Д. Мохава склалі драўляная двухпавярховая пабудова і празрыстыя высокія крэслы на кольцах), што хоча ад самога сябе, што адчувае. Адзіная сцэна, дзе ігра С. Чэкерэса ўзрушвае — сцэна размовы з Розенкранцам (А. Суцкавер) і Гільдэнстэрнам (А. Ждановіч). "Данія — турма", — кажа стомлены і асуджаны фартунай чалавек, які "думаў, што ведаў свет, а на самой справе, ён нічога пра яго не ведаў". Не ведаў сваіх лепшых сяброў, якія здольныя іграць на ім, як на флейце. У інтанацыі вар'яцкіх, парадаксальных адказаў Гамлета С. Чэкерэса адчуваецца тое прасвятленне, якое нарадзіла ў ім пагарду да чалавка, мізантропію.

У пастаноўцы Стуруа ролю Гамлета выконваў К. Райкін. "Самае вялікае апасенне майго жыцця — быць непатрэбным... Адзінае, што калісьці па-сапраўднаму зачапіла мяне ў "Ператварэнні" Кафкі: цябе не трэба, вырадак, жудаснае насякомае, а ты ёсць..." З гэтымі думкамі Райкін рыхтаваўся да "Гамлета". Гамлет Луцэнкі пазбаўлены адчування непатрэбнасці. Здаецца, што пад яго касцюмам хаваецца рваная джынсавая адзежа хлопчыка-бунтара. Гамлет пратэстуе супраць ідэалогіі страху і даносаў. Ён ненавідзіць лісліўца Палонія (А. Корчыкаў), ілгуна Клаўдзія ды інфантыльную Гертруду, якія перашкаджаюць станаўленню новага. "О, гэтыя агідныя старыя дурні!" Канфлікт бацькоў і дзяцей звужае, спрошчвае ўнутраны свет Гамлета. Калі радыкальныя тлумачальнікі п'есы Шэкспіра, упэўнены, што Гамлет кахаў сваю маці і страшна раўнаваў яе да бацькі, з якім потым атаясамліваў Клаўдзія, то Луцэнка бачыць у Гамлеце рэўнасць дарослага сына да маці, якая зноў выйшла замуж (з'яўленне "новага" бацькі правакуе псіхічны надлом). У спектаклі Гамлет і Гертруда традыцыйна сварацца, не разумеюць адно аднаго, тыповае прачытанне п'есы ўплывае на ступень эмацыянальнага напружання іх размовы. Луцэнка ледзь раскрывае глыбокую трагедыю маці і сына: Гертруды, якая не спяшаецца развітацца з найгоршай паловай свайго сэрца — каханнем да Клаўдзія. І да Гамлета, які ставіцца з пагардай да распуснасці маці. Затое да глыбіні душы любіць бацьку — няшчасную, сарамлівую здань, якая выклікае спачуванне (на думку Стуруа, Гамлет баіцца здані бацькі, таму падчас першай сустрэчы з ёй страчвае прытомнасць).

Жаночыя вобразы — Гертруда, Афелія — у спектаклі ледзь акрэслены. Гертруда ў выкананні С. Кузьміной статычная. Рэжысёр абмяжоўвае яе жэсты, рухі. Гертруда не прываблівае, яна пазбаўленая палкасці, эратычнасці, настойлівасці распусніцы. Кажуць, Гамлет атаясамліваў маці з Афеліяй. Мыльныя бурбалкі, якія ляцяць зверху на сцэну і сведчаць аб хуткім з'яўленні Афеліі, суправаджаюць таксама і прыход Гертруды. У сваю чаргу празрыстая сукенка Афеліі з абрысам аголенага цела дапаўняе бедную чуллівасць Гертруды.

Здзіўляе вобраз Афеліі. У творчай лабараторыі Луцэнкі хворая фіялка Эльсінора нечакана ператвараецца ў гарэзлівую дзяўчынку. Круглатварая, румянашчокая Афелія

у выкананні маладой актрысы Г. Казючыц несумненна любіць жыццё. Яна змагаецца на рапірах з Лаэртам, палка цалуецца з Гамлетам, спрачаецца з бацькам. Афелія і Гамлет сябруюць, разам спяваюць. Аднак рэжысёр не сочыць за логікай паводзін Афеліі. Хаатычна, непаслядоўна гарэзлівая дзяўчына ператвараецца ў пакорлівую дачку, а потым — у вар'ятку. Мне падалося, што Г. Казючыц нават не імкнецца нешта перажыць на сцэне, яна занадта хвалюецца, яе піскlівы голас раздражняе, стамляе, і таму так не хочацца бачыць на сцэне Афелію. "...Ва ўсім слухайцеся свайго ўнутранага голасу, — вучыў Гамлет акцёраў. — Рухайцеся ў адпаведнасці з дыялогам, кажыце, кіруючыся рухамі..." Афелія Г. Казючыц робіць усё наадварот.

"На магіле Афеліі Гамлет упершыню разумее, што ён з гэтай дзяўчынай зрабіў — і на што яе памяняў, — разважае Р. Стуруа. — Пасля гэтага для яго ўжо няма шляху назад, да дабра. У гэты момант пачынаецца яго рух да смерці. Ён хацеў забіць Кладзіўя, але атрымалася, што менавіта Клаўдзій зрэжысіраваў яго жыццё па сваіх законах". Зразумела — Луцэнка ўлюбёны не ў Гамлета, а ў Клаўдзія. Здаецца, толькі вобраз прытворшчыка тырана па-сапраўднаму вабіць рэжысёра. Выбітная задума — злучыць Клаўдзія і Рычарда III у адзіны персанаж (у задуме Стуруа, у Рычарда III ператвараецца Гамлет). Гэта напачатку кульгавы Клаўдзій апускае вочы долу, саромеецца, калі чуе выкрыкі шчаслівага натоўпу "Няхай жыве кароль наш Клаўдзій!" Аднак за сарамлівай усмешкай хаваецца сапраўдны выскал — забойцы. Р. Янкоўскі ахвотна падманвае гледача: яго Клаўдзій патрабавальны і мяккі, злосны і чуллівы. Яго нават можна пераблытаць са Зданнюблізнюком. Шчырая малітва Клаўдзія ўзрушвае... І ўсё ж — ён агідны прытворшчык, які з'яўляецца напрыканцы спектакля ў сучасным пінжаку і моўчкі спускаецца ў глядзельную залу...

Спектакль Луцэнкі ідзе амаль чатыры гадзіны. Тут важна не страціць увагі гледача. Р. Стуруа ставіць трагіфарс. "Я расказваю гэтую гісторыю з некаторай доляй адчайнага хуліганства, і на адной з рэпетыцый нехта пажартаваў, што спектакль падобны на фільмы Таранціна. Я не маю нічога супраць — толькі б глядач не сумаваў". П. Штайн рыхтаваў спектакль у добрым настроі, нешта насвістваючы: "У Германіі ёсць такая прыказка: у глыбокім, цёмным лесе трэба хадзіць пасвістваючы". Глядзець спектакль Луцэнкі часам сумна. Аднак незабыўны камічны эфект ствараюць п'янчужкі-далакопы (А. Ткачонак, Я. Лявонцьеў). Яны з'яўляюцца ў спектаклі толькі два разы, але іх твары фіксуюцца ў памяці. "Можна і магілу капаць са здавальненнем, калі яна — для начальніка", — кажа адзін з далакопаў і адразу ж заслугоўвае апладысменты. Падбадзёрваюць гледача і вясёлыя вандроўнікі-акцёры, якія цытуюць фрагменты з іншых твораў Шэкспіра.

Аднак у цэлым Луцэнка імкнецца да сур'ёзнага роздуму. Ключавыя паняцці роздуму — смерць і ўлада. "Уплывовых вар'ятаў садзяць у турму", — кажа асцярожна Клаўдзій. Так было і так будзе з усімі вальнадумцамі, якія жывуць у Эльсінорах. Цемра Даніі загубіла разважлівага прынца. Гамлет мітусіцца на сцэне — засталася хвілінка жыцця. Прытаіліся, замоўклі на падлозе Клаўдзій, Гертруда, Палоній, Афелія. "Я заўсёды баяўся гэтай п'есы: свінцовая трагедыя, таталітарны рэжым, замак-турма, навокал даносчыкі — вельмі падобна на нашае нядаўняе жыццё. І цемра ў фінале", — кажа К. Райкін. І цемра перамагае. Жыхары Эльсінора выходзяць на авансцэну і глядзяць у залу. Яны — гэта мы. А наша жыццё — люстраны адбітак таго, што адбывалася на сцэне.

**...Адзін з нашых сучаснікаў заўважыў: "Шэкспіра трэба шукаць і адкрываць..." Часам я думаю, колькі падводных камянёў яшчэ хавае ў сабе "Гамлет" Шэкспіра. Адзін з герояў А. Мэрдак бачыць у Гамлеце самога Шэкспіра: "Справа ў тым, што Гамлет — гэта Шэкспір..." А можа, варта ўявіць: Гамлет і Шэкспір — героі аднаго спектакля. Англійскі трагік, разважаючы пра сябе, стварае Гамлета. На сцэне яны сябруюць, гутараць адзін з адным... Дзве паловы адзінокай душы.**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: Гамлет — С. ЧЭКЕРЭС, Здань — Р. ЯНКОЎСКІ.*

*Фота А. ПРУПАСА*

# Умовы адзіноты з густам

## З НАГОДЫ ПРЭМ'ЕРНАГА СПЕКТАКЛЯ "CREVE COEUR" (РАЗБІТАЕ СЭРЦА) Тэнесі УІЛЬЯМСА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ імя Янкі КУПАЛЫ

***Гісторыі, якія гэты раз (7 і 8 мая) апавядалі паводле Тэнесі Уільямса ў перакладзе З. Коласа— жаночыя і пачуццёвыя да лёгкага прысмаку меладраматызму. Трыццатыя гады нашага стагоддзя, — час дзеяння, — вабяць уяўным рэтра толькі напачатку і крыху надаюць атмасферы. Той атмасферы, якая сваёй крохкай далікатнасцю выгукае згадку пра чалавечую адзіноту. Пра жаночую адзіноту, што куды больш драматычна.***



Гэтыя славутыя адзіноты, якія Тэнесі Уільямс прапануе на любы густ "А ў кожнага свой густ", — заўважае адна з гераінь "Разбітага сэрца". Кожная на свой густ і... скрашвае сваю адзіноту.

Нядзельным днём у невялічкай кватэры, — яе дзве з чатырох гераінь спектакля здымаюць разам, — высвятляецца, што лепш ім трымацца адна адной, чым спадзявацца на вартыя, на жаданыя, але няспраўджаныя зносіны. На свой капыл гісторыя сініцы ў руках ды жорава ў небе. На першы погляд гісторыя шарагова-жыццёвая, не глыбей: маладую настаўніцу з каледжа спакусіў дырэктар, а пабраўся з іншай паненкай. І наша маладая настаўніца (Доці) перажыла нешта падобнае да невялікай трагедыі. Адначасова з ёй перажывала паненка, з якой настаўніца разам жыла, — Бодзі. Па-свойму перажывала і калежанка настаўніцы Эліна, — тая з'явілася ў нядзельны дзень па неадкладнай справе: канчаткова перасяліць Доці ў новую кватэру, каб падзяліць выдаткі ды... адзіноту. "Асаблівай адмысловасці ўсяму надала прысутнасць чароўнай міс Глюк", — дурнаватай суседкі, суайчынніцы Бодзі, у якой памерла маці і якая шукала збавення ад сваёй адзіноты ў паненак — паверхам ніжэй. Вось і ўсё. За выключэннем... адзіноты.

Адзіноты, датклівай і пастаяннай тэмы Уільямса. Мы, гледачы, асвойталіся з ёю, трываючы камяк у горле, — асвойталіся зусім не рупнасцю, не з ласкі нашых тэатраў, у тым ліку і Нацыянальнага акадэмічнага імя Янкі Купалы. (Там да "Creve coeur" паспяхова вытрымалі хіба "Шкляны звярынец" пад назовам "Блакітная ружа" на вялікай сцэне.) Своеасаблівы, але не рэдкі выпадак: грамадскую думку пра канкрэтныя беларускія спектаклі ўсур'ёз паспрыялі сфармаваць аналітычныя (крытычныя) меркаванні пра драматурга, а таксама спектаклі маскоўскія, пецярбургскія, рыжскія і розныя іншагароднія. Наша грамадская сімпатыя да п'ес Уільямса з'явілася, дзякуючы сродкам масавай і спецыялізаванай інфармацыі. Сімпатыя да драматурга папярэднічала нашаму стаўленню да тутэйшых спектакляў. Аднак "Creve coeur" няма з чым параўноўваць нават асабліва дасведчаным. Поспеху на савецкай сцэне (нават у вядомай спробе Эфраса ў Маскве) ні разбітыя сэрцы, ні іхняя адзінота не мелі.

"Гэтая ідэя адзіноты, умовы адзіноты настолькі жахаюць, што нам ямчэй не думаць пра гэта. Так што мы гаворым адзін з адным, пішам, тэлеграмы дасылаем, б'ёмся і нават знішчаем адно аднаго толькі з-за гэтых заўжды безнадзейных намаганняў праламіцца праз сцяну адно да аднаго". Як сказаў персанаж адной п'есы: "Мы ўсе асуджаны на адзінотнае вязненне ва ўласнай скуры".

Зрэшты, пра купалаўскі "Creve coeur" можна пісаць словамі самога Уільямса кшталту таго, што наша жыццёвая гонка — часовая (гонку на сцэне падтрымліваюць дзверы-круцёлка, падзеленыя на чатыры палавіны, — кшталту тых, у якія ўкручваліся героі Чарлі Чапліна, наведваючы дарагія крамы. Сцэнаграфія Віктара Цімафеева). А "вялікая і адзіна меркаваная вартасць чалавека ў тым, што ён вольны сам сабе выбіраць ідэалы і жыць, не грэбуючы імі, — так, нібыта ён, падобна дзейнай асобе п'есы, надзейна засцеражоны ад згубнага ўціску часу". Так, як жывуць чатыры жанчыны, чатыры персанажы, чатыры асобы на малой купалаўскай сцэне, заўважна адлюстроўваючы, адбіваючы... адна адну. Рэжысёр Венедыкт Расстрыжэнкаў так вырашае мізансцэны, што гераіні міжволі глядзяць адна на адну як на свае адбіткі. У характарных пластычных эцюдах — характарыстыках гераінь ды іхніх зносін (свайго роду інтэрмедыях у пастаноўцы Марыны Дударавай) яны, пераймаючы, дужаючы адна адну, мяняюцца месцамі як матэматычныя складнікі, — сума ў выніку застаецца нязменнай. Пакуль яны ломяцца праз сцены адна да адной, іх "сума" — адзінота.

Адзінота характарна-прыдуркаватай міс Глюк чакае гаспадарлівую Бодзі, глухаватую працякаватую паненку, якая цвёрда стаіць на зямлі, аддае перавагу кухні, піву, пікнікам на Крэў Кёр (дадумаўся ж хтосьці так назваць возера!), а таксама мае брата-блізнюка і марыць злучыць яго з Доці. Адзінота вытанчанай, манернай, часам прэтэнцыёзнай выкладчыцы гісторыі мастацтва Эліны, — элітарная адзінота інтэлектуалкі між пасьянсаў, кніг ды спадзяванак у глыбіні душы, — гэтая адзінота пільнуе і Доці. Для таго, каб простасардэчна радавацца жыццю, яны надта шмат разважаюць. Для інтэлектуальных радасцяў іх жыццю бракуе дабрабытнай, заможнай упарадкаванасці. Да ўсяго ў іх надта датклівая скура, — такая прыдатная для ўвязнення...

Тон змушана задаць Алена Сідарава, чыя Бодзі (у капялюшыку ды накідцы аранжавага колеру) першай выскоквае на глядацкія вочы. Выскоквае гэткім кантрастам настраёва-лірычнаму пралогу, — за шырмай-сцяной, выхапленай асвятленнем, жаночая рука пяшчотна агладжвала плечы мужчынскай постаці. Постаць відавочна належала манекену. Вялікаму жаночаму ідэалу з паказкі.

Тон камедыі-рэтра (так вызначыў рэжысёр) падхоплівае Доці ў выкананні Іны Усовіч, гэткай крохкай Мэрылін Монра, якую, пэўна, Галівуду не прычакаць. Доці занята гімнастыкай. Для клубоў, для таліі, для сцёгнаў. Прыгажосць вымагае не ахвяры, — працы.

Размова паненак — пра куранят, пікнік, Бодзінага брата Бадзі, слыхавы апарат Бодзі, пра сімпатыю Доці да містэра Ральфа Эліса, — выглядала б дзяжурна-экспазіцыйнай, калі б Бодзі, з'явіўшыся, не схавала, колькі разоў перахаваўшы, свежую газету. Ад каго? Ад Доці, трэба разумець. А што магло быць у газеце такога, што той няможна бачыць? Загадкавая нотка афарбоўваецца меладраматычнай, калі Доці распавядае пра адкідныя сядзенні ў машыне Ральфа Эліса. Іна Усовіч прадстаўляе ўзнёслую закаханасць, якую заахвочвае прага рамантызму. Бодзі на ўсё глядзіць працей, але добразычліва і з той мерай далікатнасці, якая падкрэслівае прыстойнасць і чалавечую надзейнасць яе гераіні. Ды так моцна, што прастата нораву і грубаватасць, шаржаваная выкананнем Алены Сідаравай, толькі дадаюць ёй прыцягальнай жыццярадаснасці, — тую не псуе нават слыхавы апарат, які Бодзі старанна маскіруе штучным рамонкам. Кветкай па сезону.

Алена Сідарава не перабірае, не перабольшвае з характарнасцю Бодзі. Ад яе мажнасці, фартушка, пантофляў — патыхае домам, парадкам, дабрабытам, здароўем. Печывам, што выпякаецца да кавы. Сурвэткамі, на якія гэта кава разліваецца...

Сваю Эліну Пузіноўская характарызуе з аптэкарскай дакладнасцю. Вясёлка паўлінавага пяра ў фрызуры гераіні гуляе ў такт характарыстыкам актрысы. Аранжавае пер'е баа злятае ў хваляванні, як асенняе лісце. Картачная калода з яе рук пырсне адмысловым феерверкам, — Эліна сама выкрые сваю адзіноту, застаўшыся сам-насам з залай.

Яна-такі нагадвае змяю, — у плісіраваных строях зялёна-тытунёвых колераў, — колеры Эліны ніяк не стасуюцца з блакітным, ружовым ды бірузовым. Воляй Наталлі Сардаравай, мастачкі па касцюмах, менавіта ім аддаюць перавагу іншыя жанчыны ў спектаклі.

Падпарадкуючыся тонкім нервовым пальцам, кайстрачка Эліны, — такую з-за памеру цяпер бяруць хіба ў тэатр, — пакорліва агаляе сваё змесціва. Доўгі муштук і адмысловая запальніца прыкрытыя там газетай. Той, якую Эліна выкладае няпрыяцельцы Бодзі казырнай картай. Залішне ўдакладняць: газета — з той самай інфармацыяй, якой так баіцца Бодзі...

Танцы-баруканні (за Доці) Эліны і Бодзі, танцы-мроі, танцы-спакусы (пераменамі) Эліны і Доці падобныя да нумароў вар'етэ, — рэжысёр па пластыцы і балетмайстар Марына Дударава дасціпна расставіла акцэнты, парупілася пра малюнкі, сюжэты, рытмічныя і сэнсавыя адбіўкі. Дударава, бадай, патрапіла афарбаваць гумар спектакля рамантычнасцю і пранізлівасцю, пазбегнуўшы слязлівасці. Пра гэта клапаціўся і Венедыкт Расстрыжэнкаў, але разам з тым яго хвалявала і шматфарбнасць, і паўтоны, і стылёвасць дачыненняў гераінь. Тая стылёвасць, якая міжволі адмерала глыбіні, вяршыні ды складнікі жаночых пачуццяў, змушаючы выканаўцаў строга суадносіць свае жарсці з настроем глядзельнае залы.

Квартэт купалаўскіх актрыс не заглыбляецца ў шараговы драматызм жаночых лёсаў, аднак і гарэзлівай, прыязна-характарнай павярхоўнасці шчасліва ўнікае. Кожная роля, хоць і ў рознай ступені, зазнае развіцця. Нават такая, здавалася б, прасталінейна-інтэрмедыйная, як роля міс Глюк. Святлана Некіпелава ў ёй выяўляе і добрую акцёрскую форму, і меру годнасці смешнай міс сталага веку. Яе вылучае пастаянства ў сімпатыях. Яна адчувае і разумее людзей.

Каму-каму, а гераіні Доці гэтае разуменне так прыдалося б! (Праўда, ні драматургу, ні нам не было б каму суперажываць.) Закаханасць у Ральфа Эліса скончылася драматычна, як і альянс з Элінай, што быў узнік на глебе выкладання ў каледжы.

Падпарадкоўваючыся драматургу, гераіня Іны Усовіч адмаўляецца ад паслуг ды сяброўства Эліны. Дзякуючы актрысе Доці прымае стыль жыцця "па кішэньцы", адкідаючы новую рамантыку багатага квартала і сяброўскага кола. Як сказалі б мы цяпер, мяняе мадэль сацыяльных паводзінаў і пераглядае ўзровень сваіх запатрабаванняў. Яна выбірае свой ідэал, засцерагаючы душу ад згубнага ўціску часу. Аддае перавагу сумленнай прасталінейнасці Бодзі ды цесным пакойчыкам, — не як працягу звыкла-ўпарадкаванага, а як падставе для духоўных зрухаў, якія ў выніку зусім не абяцаюць вялікіх матэрыяльных пераменаў! Карыстаючыся вобразамі п'есы, яна прабівае сцяну, яна гаворыць, піша і пасылае тэлеграмы, — звоніць на трамвайную станцыю, адкуль выпраўляюцца на Крэў Кёр. Доці спяшаецца на пікнік — падставіць скуру пад сонечныя промні ды хвалі возера, каб тая загрубела. Каб не дагаджаць сваёй балючай жаночай адзіноце...

У іншым складзе рэжысёр даручыў ролю Доці актрысе Алене Іваннікавай, чыя гераіня поўная гарэзлівасці, радуецца жыццю і прагне рамантычных прыгодаў. Аднак часцяком... злуе, грэбуе, ганіць — позіркам, жэстам, інтанацыяй, — праўда, такія паводзіны няблага матывуе. Але, надараецца, змяшчае важныя акцэнты спектакля (у прыватнасці, дэзарыентуе гледача ў вызначэнні стаўлення да Эліны). Да такой гераіні цяжка паставіцца з даверам.

Мо самым прыдатным заканчэннем гэтых развагаў мусіла б зрабіцца пералічэнне пралікаў ды недапрацовак (асабліва з асвятленнем спектакля). Але іх якраз кожны вызначыць на свой густ.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Святлана НЕКІПЕЛАВА (міс Глюк), Алена СІДАРАВА (Бодзі), Іна Усовіч (Доці), Тамара ПУЗІНОЎСКАЯ (Эліна).*

*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

 **ЧАСАПІС**

# Застаўся на перадавой

ДА 85-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІКОЛЫ СЯМАШКІ

**У дачыненні да Міколы Сямашкі двайная несправядлівасць. Мала таго, што дакладна невядома дата яго гібелі, дык загубіліся яшчэ і звесткі пра дзень і месяц нараджэння. Адно можна пэўна сказаць: упершыню ён зірнуў на свет і людзей у 1914 годзе, а адбылося гэта ў вёсцы Барылы (пазней яна злілася з вёскай Катушанкі) цяперашняга Полацкага раёна.**

**Рана ўзяўся за пяро, таму пасля заканчэння сямігодкі пачаў працаваць у тагачаснай Ветрынскай раённай газеце. У дванаццацігадовым узросце выступіў у друку і са сваім першым вершам — ён быў змешчаны ў 1926 годзе на старонках газеты "Чырвоная Полаччына", а пазней М. Сямашка друкаваўся і ў іншых выданнях. У 1939 годзе ў яго выйшла першая кніга паэзіі "Шчырасць", якой, на жаль, наканавана было стаць і апошняй. У гэтым жа годзе паэта прызвалі ў Чырвоную Армію. Прымаў удзел у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь. А пасля — Вялікая Айчынная вайна. Абарончыя баі. Пад Оршай у сорак першым М. Сямашка загінуў.**

**З пасляваенных публікацый яго вершы можна напаткаць толькі ў калектыўных зборніках. Прадстаўлены яны і ў кнізе "Крывёю сэрца", што ў 1967 годзе адкрыла серыю "Бібліятэка беларускай паэзіі" і складаецца з твораў паэтаў, якія не вярнуліся з Вялікай Айчыннай вайны. Укладальнік Анатоль Вялюгін узяў для зборніка ўсяго тры творы М. Сямашкі. Паставіўся Анатоль Сцяпанавіч, як і заўсёды рабіў гэта, калі нешта прапаноўваў у друк, строга і патрабавальна. Ды не толькі... Ужо гэтых трох вершаў дастаткова, каб уявіць сабе, якім паэтам быў М. Сямашка.**

**Ён, як і іншыя прадстаўнікі яго пакалення, у тым ліку і тыя, хто склаў галаву ў барацьбе за Радзіму, успрымаў блізкую яму рэчаіснасць рамантычна, узнёсла. Аб гэтым сведчыць і верш "Чырвоная зорка". Так маглі напісаць многія з аднагодкаў паэта, бо тое, што прамоўлена вуснамі лірычнага героя, ім было блізка і дорага. Яны жылі гэтым, яны ж ім і даражылі. А той, хто мог, усё ўслаўляў у прачулых, шчырых, бо ішлі яны ад сэрца, радках:**

*І на прывале, і ў паходах,*
*І днём, і ранкам да зары*
*Са мной яна, на мне заўсёды*
*Агнём рубінавым гарыць.*

**"І на прывале, і ў паходзе" на той час сам М. Сямашка яшчэ не быў, твор напісаны ў 1937 годзе, але ж вобраз лірычнага героя ўбірае ў сябе ўсё лепшае, чым жыло перадваеннае маладое пакаленне, у што яно верыла. Пакаленне, жыццё якога праходзіла "пад чырвонай зоркай":**

*А ў вечаровы час лагодны,*
*Пад дымкай цёплае зары,*
*Адлюстраваны край свой родны*
*У ёй бачу я: лясы, бары,*

*Азёр блакітнасць залатую*
*І шыр бяскрайнюю палёў,*
*Радзіму бачу, за якую*
*У смяротны бой ісці гатоў.*

**Знаёмыя матывы, але такія, што кранаюць той жа шчырасцю, як і ў творы з традыцыйнай назвай "З вершаў аб Радзіме".**

**А верш "Дзявочая" сведчыць, што М. Сямашка з цягам часу мог стаць цікавым лірыкам:**

*За ракою — луг някошаны*
*І прасторы спелых ніў.*
*За ракою той — харошы мой,*
*Весялун і гарманіст.*

**У вершы адчувальна прысутнасць фальклорных матываў. Дзяўчына ў разгубленасці, як дайсці да каханага. Праз мост далекавата, "гэткі круг дарма даваць", а "нацянькі — рукой падаць". І яна рашаецца:**

*Ну, няхай. Не так шырокая*
*Рэчка з берагам ціхіх вод, —*
*Адшукаю неглыбокае,*
*Перайду рачулку ўброд.*

**Незабыўны Варлен Бечык, калі працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", стаў ініцыятарам перавыдання творчай спадчыны пісьменнікаў, якія не вярнуліся з вайны. А ў выніку з'явіліся кнігі Змітрака Астапенкі, Алеся Жаўрука, Аляксея Коршака, Хвядоса Шынклера і іншых. Мог бы з цягам часу выйсці і невялікі зборнік М. Сямашкі. Прынамсі, аўтар гэтых радкоў па просьбе Варлена Леанідавіча пачаў перагортваць у тагачаснай "Ленінцы" падшыўкі газет і часопісаў 20—30-х гадоў, каб знайсці творы М. Сямашкі, якія не трапілі ў яго зборнік "Шчырасць". Ды не стала В. Бечыка... А хутка спынілася і выданне згаданых зборнікаў. Цяпер жа, як кажуць, не да гэтага.**

**А. М.**

"ЛІМ"-ФОТА



*Уладзімір ЛІПСКІ: "Сынава салдацкая пілотка бацьку да твару"...*

*Фота з сямейнага архіва*

# Там, дзе пушча, там, дзе Сож...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Стральцоў быў найбольш блізкі. Тое, што ён пайшоў, для мяне вялікая страта. Ён мог маўчаць пра нешта сваё, але змяніць не мог. Думаю, і на якасці нашай літаратуры сказваецца тое, што няма душэўнай адкрытасці. Таму і не ўдаецца беларусам дзённікавы жанр. Хіба што ў Брыля і ў Адамовіча. У апошняга — асабліва перадсмяротныя старонкі. Мы нацыя псіхалагічна закрытая. Відаць, сотні гадоў падначалення іншым народам выпрацавалі такую ментальнасць — прыхоўваць нешта ў сабе. Інтэлігенцыя баязлівая. І літаратура. Перачытаў нядаўна Апдайка "Кентаўр". Якая адкрытасць — іншы свет, іншае пачуванне і разуменне сябе. Чалавек адчувае, што ён — пан. І ў той жа час усведамляе абавязкі перад іншымі. Такое для нас пакуль недасягальнае. Таму я не люблю жанр "калектыўных пісьмаў". Калі ты пісьменнік, маеш вялікую магчымасць уплываць на любую сітуацыю сваімі творамі. Ні разу ў жыцці не падпісваў калектыўныя пісьмы, прынцыпова. Калі ў мяне ёсць пакліканне, я лепш напішу пра свае погляды ад сябе і надрукую пад сваім прозвішчам. А калі стаіць подпісаў дваццаць, дык гэта як бы хаваюцца адзін за аднаго. І ўсе — барацьбіты, усім не страшна. Калі я надрукаваў у "Звяздзе" свой ліст "Саюз пісьменнікаў гіне, а пісьменнікі патрабуюць узнагарод", адзін са знаёмых пісьменнікаў, таксама — кандыдат у народныя, сказаў, што тады ўзненавідзеў мяне. Афіцыйнае званне — невялікае шчасце для пісьменніка. Літаратура — гэта мастацтва аднаго чалавека. Калі ты нешта можаш — відаць па творы, калі нечага не можаш — таксама відаць.

**— Над чым працуеце зараз?**

— Над кнігай пра беларускі жывапіс. Уключаю туды эсэ пра Бялыніцкага-Бірулю, дапісваю аповесць пра мастака Жукоўскага. Планую дадаць эсэ пра Бараноўскага і Вашчанку, дзённікі трох пленэраў Бялыніцкага-Бірулі. Не ведаю, ці ўдасца выдаць. Дзве заяўкі на кнігу падаў у выдавецтва — Марчук адхіліў. Але гэта не бяда. Мой шлях у літаратуру быў нялёгкі. Яшчэ й таму, што родны кут вельмі русіфікаваны. Калі там пачуюць ад цябе беларускае слова — адразу шэпчуцца: нацыяналіст. Крычаў заўсёды даваў Піцеру рэвалюцыянераў, але не даваў моцнай нацыянальнай культуры, духоўнікаў. Тут жывучы і я пачынаў пісаць па-руску. Першае апавяданне было на рускай мове. Беларускую літаратуру ў нашай школе выкладалі па-руску. Праўда, і сённяшняй ваяўнічасці супраць беларускасці тады яшчэ не было. А гэта цяжкая праца — самавыхаванне. Многія пісьменнікі з нашага краю пачыналі пісаць па-руску: Чыгрынаў, Стральцоў, Пысін... Я зайздрошчу тым, хто ад самага маленства знаходзіўся ў асяродку добрай беларускай мовы, нёс у сабе беларускі побыт. Гэта ў асноўным ураджэнцы заходніх вёсак. Ім лягчэй было адразу знайсці сябе і ў літаратуры. Таму цяпер, калі я выступаю па школах, расказваю пра гэтую сваю бяду. Бо магло быць і так, што я кінуў бы літаратуру. Утрымаўся, дзякуй Богу.

**— Ваша імя для беларускага чытача непарыўна звязана з паняццем вандровак. Гэта ваша пакліканне — вандраваць па свеце, ці проста выпадак?**

— Жаданне вандраваць, можа, маё самае моцнае жаданне. Заўсёды цікавіць новае. Калі я напісаў нейкую рэч, то наступную пастараюся напісаць пра іншае, інакш. Быў час, спрыяльны для вандровак, калі плацілі някепскія ганарары, пісьменнікаў запрашалі ў паездкі. За мяжу я не стараўся патрапіць сам, але прапаную — не адмаўляюся. Ды я не шмат ездзіў за мяжу. Два разы — у Парыж і па Індыйскім акіяне.

**— А ўражанне такое, што вы аб'ехалі ўвесь свет.**

— Проста пра ўсе свае падарожжы я напісаў. У Парыжы — эсэ пра Пысіна, у Індыйскім акіяне — эсэ "Глядзіце ў вочы лемуру".

**— Пасля вандровак па экзатычных мясцінах вам не падалася беднай айчынная прырода?**

— Не. Гэта проста іншая прырода. Адзінае, чаго ў нас сапраўды не хапае, — мора. Каб была магчымасць — я б пастаянна ездзіў па свеце. Па Карэліі ў мяне было падарожжа — з ружжом і сабакам. Белае мора абышоў, Поўнач. Знаходзіў беларусаў, начаваў у іх.

**— Ці захоўваюць беларусы там сваю культуру, хаця б нейкія яе праявы?**

— Як яны могуць захаваць яе там, калі не захоўваюць нават на радзіме? Беларусаў у Карэліі каля 70 тысяч. Па колькасці яны на другім месцы пасля рускіх. Калі збіраюцца, родныя песні спяваюць, ручнікі паказваюць, вышыванкі апранаюць. Гавораць па-руску, а беларуская лексіка ўсё-ткі застаецца. Напэўна, у першую чаргу, каб нам застацца беларусамі, беларусамі ў Беларусі, трэба ўсё зрабіць для таго, каб кожны чалавек ведаў праўдзівую гісторыю свайго краю, яго непрыхаваныя святло і цені, гісторыю свайго роду. Гісторыкам і пісьменнікам трэба цікава напісаць сціслую, у адным томіку, гісторыю Беларусі, выдаць яе такім тыражом, каб яна знайшла сваё месца ў кожным доме, у кожнай кватэры, у кожнай сям'і, у кожнага чалавека на Беларусі была пад рукою. Яе трэба не прадаваць за грошы, а ўсім раздаць бясплатна, як святы дар радзімы, як гэта рабілі і робяць місіянеры царквы, раздаючы на вуліцах Біблію. Гэта быў бы моцны штуршок беларусаў да Беларусі. Ну, вядома, для гэтакай работы трэба стварыць нейкі фонд, нейкі штаб, грошы на гэта трэба знайсці любімі шляхамі.

**— Чамусьці не атрымліваецца ў нас папулярызацыя гісторыі. Беларускія тэлесерыялы не канкурыруюць нават з расійскімі.**

— Іх робяць не тыя людзі. Робіць той, хто ўмее выбіць на працу грошы. Тыя, хто на гэтым хоча зарабіць. А ў нашых умовах павінны рабіць патрыёты Беларусі. Не за грошы, а ў імя святой ідэі.





*На здымках: работы В. Карамазава.*

ТВОРЦЫ

ШТО Ж МЯНЕ ТАК узрушвае ў гэтым голасе, чаму, як толькі пачую яго, — то плачу, то ўсміхаюся, то ціха, задуменна гляджу ў далеч? Мне хочацца тады забіцца ў самы патаемны куток і стаіцца, слухаць толькі сябе, сваю ўстрывожаную гэтым голасам душу. Я не тая паклонніца, якая гатова павіснуць на шыі, засыпаць неразумнымі прызнаннямі ў любові да нашага сапраўды народнага артыста. Мае прызнанні — прызнанні захмялелай ад песні душы. Я толькі з ёю, з песняй, крыляю ў паднябессі, жыву і радуюся, што ёсць я на зямлі. І здзіўляюся: як мог ён пачуць маю душу?..

І пацягнулася рука да паперы, каб праліцца на ёй тым святлом, якім асвятліў і сагрэў мяне сваім цёплым талентам Анатоль Ярмоленка.

якія яны хораша перадаюць сваім трапятліва-тонкім, душэўным, пранікнёным выкананнем. У Алесі, як і ў бацькі, ёсць ужо свой багаты рэпертуар, свае песні, якія тут жа падхопліваюцца ў народзе. У яе неяк па-асабліваму душэўна трапечацца-звініць і жаўраначка ў небе, і каліна шчаслівa смяецца, і шугае купальскае свята, дзе й Алесін вяночак з васількоў плыве ў вякі, і прынц з ружаю — усё казачна прыўзнімае нас над будзённасцю, над зямлёю... На нейкі міг мільгане: гэта ж словы Леаніда Дранько-Майсюка, гэта ж музыка Мікалая Сацуры! Але ж усё гэта — ужо й Алесіна, бо хто, акрамя яе, гэтак праспявае:

***Баю-бай, крышталёвыя краскі***
***Узыходзяць у сіняй журбе.***
***Баю-бай, з гэтай вечнай казкі***
***Прынц і ружа прысняцца табе.***

бліжэй і здзівілася: дзяўчынка, зусім дзяўчынка з выгляду! Простая, даступная, ветлівая, без ніякай там фанабэрыстасці, без аніякай там "зорнасці". На экране тэлевізара Алеся больш сталая, а тут, у парку, без анiякіх там фарбаў, яна цвіла маладой незабудкай сярод першай пышнай зяляніны. Усцешна было назіраць за ёю і за еiным бацькам, якія так хораша дапаўнялі адно аднаго, падкрэсліваючы сабою адметнасць кожнага. Падумалася, што ім часцей варта спяваць дуэтам. Юная спявачка заслужыла ўжо імя свайго бацькі, а не проста Алесі. Але, з другога боку, яна заслужыла ўжо куды больш — імя Алесі! Яно ўжо гэтак натуральна, звыкла гучыць для кожнага з нас. Гэтае імя яна высока, годна нясе. Яна і яе слынны бацька.

Яна даражыць сваім цудоўным ансамблем "Сябры", даражыць студыяй "Сябры", даражыць тою перадачай, якую вядзе на Беларускім радыё. І трэба сказаць, цудоўна вядзе, з любоўю, кожны раз адкрываючы слухачам нейкае новае музычнае імя — ці то спевака, ці то кампазітара. А найперш — новыя песні.

Песні, песні... Хто мы, што мы без іх? Вось чаму тых, хто надзелены пеўчым талентам, так глыбока любіць, шануе народ. Яго не падманеш. Хто чаго варты — у песні, як нідзе, відаць.

"Вы шуміце-шуміце нада мною, бярозы..." Пачую — і адразу бачу сябе ля шатаў мілых з дзяцінства арабін, ля свайго парэскідвага, паразвеянага вятрамі-непагаддзю роду, каля крэўных магіл... Колькі такіх цудоўных радкоў урываецца ў душу, дзякуючы песням Анатоля Ярмоленкі і Алесі!

Усхвалявала мяне яе "Каліна-каліна", што прагучала летась на віцебскім фестывалі. Яна запала ў душу, як яркае відовішча, уражанне было такое, быццам гэта народная па сваёй сутнасці песня. Нарадзілася ж яна ад творчай садружнасці паэта Леаніда Дранько-Майсюка, кампазітара Сяргея Ліпеня і — спявачкі Алесі. Песню падхапілі, заспявалі ў самых розных куточках нашай Беларусі.

***А іду я, а іду***
***Жаць у полі лебяду...***

Ага, так мы табе й паверылі, гледзячы на тваю красу, на тваю прыхарошанасць, на святочны ўбор твой. І мы ўжо расплываемся ва ўсмешцы, калі, урэшце, чуем:

***Каліна-каліна,***
***Вось такая навіна:***
***Што мякчэй няма нідзе,***
***Чым ляжаць на лебядзе!***

Словы я схопліваю на слых, таму загадзя прашу прабачэння ў паэта, калі што не зусім дакладна. Але Алеся так выразна прамаўляе іх (у яе ўвогуле выдатная дыкцыя), што іх, гэтыя словы-залацінкі, не толькі чуеш, а і бачыш. І палае сэрца ад юначай нястрымнасці, ад юнага запалу Алесі, якая "хоча і любіць, і кахаць". Алесі верыш, бо яна бачыць тое, што спявае. Як і яе бацька.

Прыгадаем нарэшце Алесю ў ролі вядучай тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства" (паклонімся тут усім стваральнікам гэтай цудоўнай тэлепраграмы, паклонімся таму ж Анатолю Іванавічу, які столькі часу, сілы аддае выяўленню юных талентаў як старшыня журы фестывалю) — і пагодзімся: адметная яна і ў ролі тэлевядучай! І застаецца пашкадаваць, што нашае тэлебачанне належным чынам не запатрабавала талент Алесі, не прапанавала ёй весці якую-небудзь самастойную музычную перадачу.

# І люблю, і дзіўлюся...

Я люблю гэты талент, гэты голас! Люблю за тое, што з ім — як з травою, як з жытам, якое спеліцца-красуе ў родных палях, як з жаўрукамі ды перапёлкамі, як з паэзіяй Аляксея Пысіна, Анатоля Сербантовіча — "ціхіх", засяроджаных у сабе паэтаў, песня якіх гучыць, не змаўкае.

Нібыта штосьці сваё, слухаю чужое жыццё. З радыё, з тэлебачання, з дачных аўдыёкасет. Нібыта пра сябе слухаю. І думаю, адкуль у Вас, Анатоль Іванавіч, такі дар пранікнення ў тое, што стаіць за словам, за музыкай? Адкуль такая глыбіня, такая чароўная ўсхваляванасць пры выкананні той ці іншай песні? Адкуль такая сардэчная падсветленасць кожнага верша, кожнага слоўка? Быццам плача самотная непрыкаяная душа, тая, што так і не сустрэла ў сваім жыцці Адзінага.

***Твой задумны пагляд заварожвае.***
***Толькі побач з табою, з табою не я...***
***Недаступнай красою прыгожая,***
***Несустрэтая мара мая.***

А каго не кране гэты самы высокі кліч у трапятлівае, недасяжнае:

***Каханая-каханая,***
***Далёкая-далёкая...***
***За белымі туманамі,***
***За сінімі аблокамі...***

Калі б Анатоль Ярмоленка праспяваў толькі гэтую адну песню, — я запомніла б ягоны голас на ўсё жыццё! Столькі пачуцця, столькі невыказных фарбаў-адценняў уклаў ён у яе! І нельга не падзівіцца тут ягонаму майстэрству, нельга не пакланіцца яму.

А двойчы варта пакланіцца яшчэ і за тое, што выпеставаў зорку-дачку — любімую ў народзе Алесю, мілую жаўраначку, якая звініць ужо ў гарадской кватэры і вясковай хаце. Голас яе — таксама чароўны і цёплы, блізкі кожнай душы. У Алесі — вельмі шмат ад бацькі: душэўнасць, дабрыня, шчодрасць пачуццяў, глыбокая, натуральная эмацыянальнасць, якая мацуе песню, дае ёй крылы, уздымае да нябёс.

Але ёсць яшчэ і тое, чаму нельга навучыць ці "раскруціць", — тое, што даецца ад прыроды: артыстычнасць, голас, душа. У адрозненне ад бацькі яна нарадзілася, вырасла на беларускай зямлі. Радзімнымі сталіся ёй і Гомель, і Бабруйск, і Мінск. У маміным Бабруйску яна ведае кожную сцяжыну, а рака Бярэзіна — яе родная рака. Тут яе вадзілі за руку не толькі бабуля і мама, а і цётка Жэня, якая і сёння працуе на шынным камбінаце і да якой нене ды прыбягаюць дзяўчаткі, каб паспрыяла дастаць здымак Алесі, часопіс з аповедам пра пляменніцу. І цётка Жэня дапамагае, дастае, шчодра дорыць, бо чуе яна сілу Алесінай песні:

***Люблю мой край, старонку гэту,***
***Дзе я радзілася-расла,***
***Дзе ў першы раз пазнала шчасце,***
***Слязу нядолі праліла.***
***Люблю народ наш беларускі,***
***І хаты ў зелені садоў...***

Словы Канстанцыі Буйлы, а — сталіся быццам Алесінымі. Такая яна, сіла песні! Сіла майстэрства артысткі-спявачкі!

І бацька, і дачка вельмі адказна падыходзяць да тэкстаў песень. Абы-што яны не спяваюць. Лёгенькае, бяздумнае — не для іх. Рэпертуар у іх адметна нацыянальны, глыбока лірычны, багаты на глыбіню думкі і вялікія, сапраўдныя чалавечыя пачуцці,

А тут і голас бацькі, нібы казачнага прынца, увальецца ва ўскалыханую песняй душу:

***Мне помніцца***
***даўняя песня,***
***Нібыта старое кіно.***
***Алеся, Алеся, Алеся***
***Легендаю стала***
***даўно.***

Ах, Алеся, выпеставаная, вылюляная любасцю песня Бацькі! Радасць і шчасце, трывога і пякучы боль Анатоля Ярмоленкі. Пашануйма ж ягоны працяг, ягонае жыццё, голас і душу яго. Пашануйма, урэшце, падораныя нябёсамі дзве яркія душы, якія грэюць нашую эстраду сваёй чалавечнасцю...

Прыгадаем, адкуль узняўся на зоркавую эстраду сам Анатоль Ярмоленка, як нялёгка было яму калісьці. За яго плячыма ніхто ніколі не стаяў, а — толькі ягоны талент і вера ў тое, што народ, урэшце, пачуе, калі ён праспявае нешта вартае яго.



Ён нічога не забыў. Не забыў і сельскі клуб, і абласную філармонію, і падножкі нядобразычлівцаў. Ён, нават падаючы, уздымаўся і спяваў. Спяваў, як спяваюць жаўранкі над полем, як спяваюць высокія, нябачныя анёлы. Спяваў найперш для людзей.

Перад сваім 50-годдзем, перш чым узысці на самую высокую сцэну нашай краіны, ён аб'ездзіў колішнія дарагія яму так званыя правінцыйныя мясціны. Шчыра, светла сустракалі яго людзі. Колькі ні прыгадваю — не магу прыгадаць, каб хто іншы з нашых артыстаў столькі сіл, энергіі, запалу і любові аддаваў глыбінцы, які б столькі калясіў па гасцінцах і вясковых прасёлках.

Прырода доўга выбірае, каго надзяліць талентам, тым жа чароўным голасам. З Анатолем Ярмоленкам яна не памылілася. Талент, памножаны на вялікую, нястомную працу над сабой, даў плён. Праз свой шлях да поспеху сам Ярмоленка кажа: "Вось так — ад сельскага клуба да сцэны опернага тэатра!" Шчасце? Вядома, шчасце! Двойчы ж шчасце — выпеставаць сваю Алесю-жаўраначку!

***Жаўраначка, жаўраначка,***
***Людзі, гляньце, жаўраначка!..***

Звініць-трапечацца птушкаю над палямі і лугамі, над гарадамі і вёскамі юны дзявочы голас — працяг голасу Анатоля Ярмоленкі. І мы імкнёмся насустрач яму, у вясновыя поле і луг, пад высокае, у белых аблоках неба... Словы гэтыя напісаў Ніл Гілевіч. Але каб яны не былі так праспяваны, ці кожны б пачуў іх? Уяўляю, як удзячны Алесі наш шаноўны Ніл Сымонавіч...

Былі і будуць яшчэ маладыя, звонкія, радасныя песні ў нашай жаўраначкі. У яе яшчэ ўсё наперадзе. Памятаю сустрэчу з ёю летась у мінскім парку імя Чэлюскінцаў 9 мая. Пасля кожнай песні да яе падыходзілі франтавікі і абдымалі-цалавалі, не хаваючы свайго захаплення. Я таксама падышла

...І зноў прыгадваю адзіную з імі сустрэчу ў парку імя Чэлюскінцаў. Вочы ўвочы звяла мяне з імі мая дачка! Яна так за імі цікавала, так узіралася ў іх, што звярнула на сябе ўвагу, і яны, Анатоль Ярмоленка і Алеся, паклікалі яе да сябе. Яны сэрцам беспамылкова адчулі: гэта яна, іхняя завочная сяброўка, дасылала ім свае вершы.

— Ты Даша? — спыталі яны ў яе.

— Ага, — радасна здзівілася дачка ад таго, што яе пазналі вось так. І я вось дзіўлюся іх учэпістай памяці. Можа, таму яны й запомнілі яе імя, бо вершы пахвалілі Леанід Дранько-Майсюк, можа, задужа выразным было цікаванне маёй дачкі, але — вось так, як у казцы: і пазналі, і прыгалубілі яе. Расчулілася і я ад усяго гэтага, і шчыра сказала-выгукнула ім: "Мы вас вельмі, вельмі любім!" І — змоўкла, і адышлася. Падалося тады, я ўсё сказала. Цяпер жа шкадую, мела такую магчымасць пагаварыць з імі і — не скарыстала. Тады ж была пад уражаннем толькі што праспяваных песень, і чулася мне адно, як вінавацілася Алеся перад дзядулем, што нічога не ведала пра ягоны лёс, калыхалася перада мною салдацкае поле, поле з песні Анатоля Іванавіча — адно, дзе "кветкі ірваў", і тое, "дзе ён ваяваў", і шумелі чыстыя, белыя нада мною бярозы, разрывалі сэрца шчымлівай тугою па нечай няспраўджанай долі...

Скончу тым, з чаго пачала. Што ж мяне так узрушвае ў гэтым голасе? Чаму трывожна калышуцца, плывуць перад вачыма аблокі? Чаму апускаецца на мяне неба?

***За векам век плыве, цячэ,***
***А мы ідзём, ідзём... І што ж?***
***О, як далёка нам яшчэ***
***да Беларусі!***

Слухаю, трывожна слухаю гэты заклапочаны, вельмі ўсхваляваны голас...

**Марыя ПАНКОВА**

*Фота А. ПРУПАСА*

 **ЧАСАПІС**

## Вестка з Чэхіі



**Днямі рэдакцыя "ЛіМа" атрымала ліст ад паэтэсы Ніны Аксёнчык, якая цяпер жыве з сям'ёй у Чэхіі. У сваім лісце яна піша: "Добры дзень, мае дарагія лімаўцы!**

**Дасылаю Вам фота сваёй першай працы, напісанай на чужыне, — "Чарнобыльская Мадонна". Пра Чарнобыль трэба гаварыць не толькі 26 красавіка.**

**Тут, у Чэхіі, я працягваю творча працаваць, пішу вершы, а найбольш — карціны. Маю запрашэнне з Ірландыі зрабіць там персанальную выставу. Але жадаю, каб выстава адбылася найперш у Празе.**

**Пішу ў асноўным сваё роднае Палессе, бо гэта невычэрпная тэма. Паказваю людзям хараство нашай зямлі і яе трагізм..."**

## Віталі сябры



**Прэзентацыя кнігі вершаў "Чорнае свята" Лявона Неўдаха адбылася ў Цэнтры нацыянальных культур і рамёстваў г. Полацка. На ўрачыстасць прыехалі і літаратары з Наваполацка, Глыбокага, Ушачаў.**

**Пачынаючы вечар, старшыня Полацка-Глыбоцкай філіі абласнога аддзялення СБП Алесь Жыгуноў адзначыў: "Сёння ў нас шмат паэтаў-лірыкаў, але цяпер нашай літаратуры і грамадству патрэбны такія паэты, як Лявон. Філосафы, якія бачаць глыбінныя з'явы жыцця і грамадскіх працэсаў і ўмеюць гэта данесці да чытача, абудзіць яго думкі і пачуцці".**

**Сябры Полацкага літаб'яднання "Наддзвінне" пазнаёмілі ўдзельнікаў вечарыны са сваімі творамі. Удзельнікі тэатра-студыі "Гармонія" пад кіраўніцтвам Валянціны Нагорнай пазнаёмілі прысутных з літаратурнай кампазіцыяй па творах Л. Неўдаха. Студэнтка Віцебскага медінстытута Наталля Варатынская выканала некалькі ўласных песень на яго вершы. Са словамі віншавання і пажадання далейшага творчага плёну выступілі Галіна Варатынская з Ушачаў, Святлана Новік з Глыбокага, Герман Кірылаў, Ірына Дарафейчук, Змітрок Куніцкі з Полацка, іншыя сябры літаратурнай суполкі.**

**У слове ў адказ Л. Неўдах шчыра прызнаўся, што сяброўскія водгукі і пажаданні расчулілі яго і ён вельмі ўдзячны за такую ацэнку сваёй паэтычнай працы.**

**А вяла вечарыну супрацоўніца Цэнтра нацыянальных культур Марыя Бабко.**

**Юрась КАСЦЮК**

*На здымку: Лявон НЕЎДАХ (злева) і Алесь ЖЫГУНОЎ падчас прэзентацыі.*

*Фота К. ЖАРНАСЕКА*

ЭСЭ

Уладзімір ГЛУШАКОЎ

# Развітанне на пачатку вясны

З надыходам вясны ў празрыстым паветры, ад якога быццам папрасторнела на падворках і пакручастых вулках, што збягаюцца да вірлівага, гаманкога базару пасярод мястэчка, рэзка і цяпка запахла заляжалым на гарышчы насеннем красак і гародніны.

У гарадчукоў-"веснавікоў" (у тых, хто едзе гандляваць за межы свайго краю), якія рыхтуюцца да сезона, самы рух. Нешта з насення трэба дакупіць, нешта збыць, падцыраваць мяшэчкі, падмасліць этыкеткі, бо ношка, калі да яе не прыкласці рукі, толькі спіну змуляе за тыя тры-чатыры месяцы — гандлёвы сезон, які давядзецца трымаць дзе-небудзь у Забайкаллі ці на Далёкім Усходзе, аднак не ехаў бы гаспадар за свет, кінуўшы дом і агарод на дагляд чыйка, не рызыкаваў бы гэтак, калі б не свярбела неадольная думка збіць ладную капейчыну. Іншых заробкаў, акрамя гандлёвага гешэфту, няма ў мястэчку. Бо нельга ж усур'ёз гаварыць пра месцы школьнага апальшчыка ці вартаўніка пры базары, якія, дарэчы, ніколі не былі тут вакантнымі, бо перадаваліся з рук у рукі ледзь не ў спадчыну.

У панядзелак, бразнуўшы форткай і завёўшы ровар у двор, праведаць хворую сястру завітаў яе малодшы брат Мікалай. Прызнацца, я быў прыемна ўражаны — не бачыліся, можа, з год. Дзядзька ж увогуле амаль не змяніўся, гэткі ж моцны поціск куцапалай, цяжкой, як дубовы скабурак, рукі; гэтак жа лагодна пазіраюць з-пад калматых, калючых, як дрот, брывоў зеленавата-шэрыя вочы; скураную куртку, прыдбаную, мабыць жа, на "вясне", шыкоўна дапаўняе нутрыевая шапка.

Шапкі дзядзька вырабляе разам з зяцем. А каб нешта мець з гэтага, паставілі справу на шырокую нагу, вядома ж, па местачковых мерках, — развялі на ўласным падворку нутрый. Самі ж, узяўшы на ўзбраенне адпаведную літаратуру і парады спецыялістаў, асвоілі тэхналогію вырабу шкурак. Узялі ў гарсавеце патэнт. За нейкія два-тры гады, пагандляваўшы хадавым таварам, цесць справіў зяцю легкавік. Ды не "Масквіч" там нейкі, нават не "Жыгулі", а адразу "Мерседэс"... Няхай сабе і патрыманую, затое першую ў Давыд-Гарадку іншамарку! Падобныя з'явы ў местачковых шыротах ацэньваюцца грамадскасцю па самым высокім рэйтынгу і бяруцца на ўлік.

Цяпер можна было везці сваю прадукцыю не толькі ў Мінск ці Брэст, а значна далей, дзе на яе большы попыт, хоць у Рыгу ці ў самы Мурманск. Можна яно можна, але часы раптоўна памяняліся, былыя рэспублікі парабіліся суверэннымі і незалежнымі краінамі, паабзаводзіліся межамі і таможнямі. Але ж і новы промысел занепаў — паразводзілася тых канкурэнтаў процьма. Так што зноў, як ні круці, стала выгадна ездзіць гандляваць насеннем.

Дзядзька, цяжка сапучы, прайшоў у спальню да хворай сястры, хвіліну рыпуча ўладкоўваўся на хісткім табурэце. Маці ўзрадавалася з'яўленню ў хаце рэдкага госця, памкнулася была ўстаць, але той тонам, не церпячым пярэчанняў, загадаў ёй ляжаць.

— Бач, браток, не прыбрано ў хаце, а я мушу валяцца на ложку... Не сцірано, не топлено, не варано... — Вочы маці павільготнелі, яна прыкрыла іх на імгненне схуднелай рукой і, мусіць, больш чым хто разумеючы сваю бездапаможнасць і асуджанасць, у адчаі адвярнулася тварам, на якім застыла грымаса болю, да сцяны.

Дзядзька Мікалай, з непрыхаваным спачуваннем пазіраючы на сястру з-пад калматых брывоў, падазрона бліснуў вачыма і, быццам крыху засаромеўшыся праяўленню слабасці, паспрабаваў яе супакоіць.

— Нішчо. У хаце, як у хаце... — Ён, быццам надаючы пэўнасць сваім словам, азірнуўся, павёў рукой. — Ці шчо ты тут хацела? Вітрыну?

— Табе б, Колька, абы пажартоваці... — Маці ўздыхнула, падобна, крыху супакоіўшыся. Зірнула прыдзірліва на брата.

— Ты б скінуў ета футэрко, а то спацееш, а на вуліцы вяшняк — доўга прастудзіцца? Хваробу спаткаць лёгка — паправіцца трудно. — Маці зноў тужліва ўздыхнула, падалося, уклаўшы ў сэнс апошніх слоў усё, што яна ўжо адпакутавала і што яшчэ, толькі горшае, чакае яе наперадзе.

Дзядзька Мікалай таксама, здаецца, зразумеў гэта, але цаной немалых намаганняў пастараўся не падаць выгляду. Вязкая паўза, якая цягнулася не болей за паўхвіліны, была зараз горай за любое выпрабаванне, і, можа, толькі таму я першы рызыкнуў парушыць яе.

— Хутка на "весну", дзядзька Коля?

Дзядзька, ледзь не даслоўна ведаючы змест маёй апавесці "Насенне", падазрона скасавурыўся ў мой бок, уздыхнуў, але на гэты раз маю штучную бадзёрасць ён, падобна, успрыняў лагодна.

— Каб вам, молодым, лепш яе не знаць! Ні грошай тых акаянных, ні таго клопату. Раней, пры камуністах, неяк было спакайней, хоць і не давалі, халера на іх, носу высунуць з Гарадка: то каранцін, то з вобыскам пойдуць по хатох, то закупораць патрулямі дарогі...

Дзядзька, даўшы волю пачуццям, махнуў адно рукой, надзьмуўся і хвіліну шумна соп, пакрыўджаны, мне здалося, на ўвесь белы свет. У той жа час я хутчэй інтуітыўна адчуў у яго паводзінах нешта ненатуральнае — і не памыліўся. Дзядзькава ўзрушанасць тлумачылася не чым іншым, як даволі нязграбнай спробай неяк загаварыць сапраўдную мэту свайго візіту — маючы адбыцца ад'езд на "весну". Сітуацыя ўскладнялася дзядзькавым разуменнем таго, што на гэты раз у сястры не проста ў чарговы раз падскочыў ціск і ёй нядобрыцца — у такім бы выпадку, як ужо не раз бывала, дзядзька, кіруючыся з ношкай насення за Уральскі хрыбет, нават не зірнуў бы ў бок Лужка!

Маці, адзначыў я, таксама хутка зразумела, чаму наведаўся ў хату багаты, ганарысты брат, і ад гэтай агаленай, страшнай, бы лязо брытвы ў чыёйсьці няўмелай руцэ, думкі ёй нават кінулася гарачая чырвань у твар.

Не ведаю, каму з іх было лягчэй у гэтыя няпростыя хвіліны. Абодва разумелі, што гэта апошняя сустрэча, што развітваюцца навек. Маленькая маральная перамога была ўсё ж, мне здаецца, на баку маці; яна прасветлена, адкрыта пазірала на брата, які па-ранейшаму шумна соп і, лаючы цяперашнюю "весну", адказваючы неўпапад на рэдкія пытанні, падоўгу пазіраў у падлогу ці адводзіў убок чырвоныя, набрынялыя вільгаццю вочы... Ажно шкада яго было.

— Зараз, яно ж і праўда, дарога важкая. А як намерыліся ехаці? — дапытвалася маці, унікаючы ў дробязі, быццам гэта для яе зараз было асабліва важна.

— Да Сянкевічаў — на маторцы. Адтуль да Масквы — на цягніку. А далей, самалётам да самаго месца. Цяперака мілае дзело, не тое, шчо було раней. Свабоду падавалі — едзь хоць у Амерыку...

— Калі ж у дарогу? — дапыталася маці, сцерагучы вачыма кожны рух брата, быццам усё гэта — яго словы і рухі — несла ў сабе нейкі асаблівы, зразумелы толькі ёй адной сэнс і змест.

# СЛЯПЫЯ

(Працяг. Пачатак на стар. 9)

Толькі ў начы, калі да хадакоў прыклыпаў з перабітай лапай павадыр, стала зразумела, што не выпадае іншага, як ісці на людзі. Сабаку Варлам не кінуў, нёс бедалагу на руках, хоць і сам ледзьве валачыў ногі.

Далёка за поўнач тры хісткія цені, прыбіўшыся да высокага частаколу, надоўга знерухомелі. Потым сляпыя дабрылі, мацаючы агароджу, да глухіх варот. Тут іх пачулі дваровыя сабакі і ўсчалі брэх. З варот выйшлі з паходняй узброеныя людзі. Праз нейкі час яны вярнуліся ў цёплае жытло, ведучы з сабою нязваных прышэльцаў.

Куды кіраваў вазніца, Варлам пачуў незнарок, ачнуўшыся з прорвы непрытомнасці. Навіна крыху ўсцешыла, надаючы сілы: наперадзе — Лагойск.

Неўзабаве надоўга прыпыніліся — мабыць, для начлегу. Варлам, счакаўшы, сеў у возе — ніхто не азываецца. І ён, высільваючыся, перакінуў праз жэрдку здранцвелыя ногі, выкаціўся з воза на дол. Сабака, верны павадыр, не з'явіўся на ўмольны покліч гаспадара. І ён, памарудзіўшы, пасунуўся ўсцяж дарогі.

Калі двое рамізнікаў падвялі сляпога да агню, ён, бядак, зусім знясілеў: мякка асунуўся на пасланую каля вогнішча дзяругу. Ён цешыўся цеплынёю, радуючыся, што ажывае амярцвелае цела.

Раптам ён са здзіўленнем пазнаў адзін з галасоў, абрыўкі якіх дасягалі яго слыху. Пінчук — гэта быў ён — жаласліва гугніў, штосьці даводзячы начлежнікам, якія яго, бадай, не слухалі: "...бедным жабракам не гнявіць літасцівага князя Геранiма... ласку яго да люду гаротнага... Дае старосту хлеб з княскіх засекаў, ратуе ад галоднае нядолі гарады, мястэчкі..." "Аднак, — тлумачыў той жа голас нябачнаму суразмоўніку (а можа, яго і не было), — нядзячныя халупнікі набраліся ад галаўнікоў і кніжнікаў бунтарства і сваволі..."

Галасы патроху аціхалі, вазніцы, відаць, паснулі пры вогнішчы, пасунуўшы вячэру чужакам. І словы Пінчука набывалі акрэслены сэнс:

— А яшчэ быў пры нас кульгавы сабака. Той, якога вы ўхойдалі, каб не мучыўся. Вывеў ён нас на дарогу, так. Але як асунешся без харчу, мусіш з'есці і павадыра свайго. Казаў я ім — не паслухалі... А карысці ад яго з перабітай лапаю — аніякай. Як да княжэцкіх гайдукоў прыбіла нас у двары, дык кінулі тыя нас на паўдарозе: біць, відаць, пагрэбавалі, палічылі, што самі дойдзем. І дайшлі б, каб не ваша ягамосць... Вось пры той дарозе нязнанай і завылі ўтрох разам з сабакаю. Лес, вецер скуголіць, я і кажу: трэба ўхойдаць сабаку ды вогнішча паліць — крэсіва ў мяне было, не забралі. Мяса сабачае, ведаю бо, сілу дае...

Варлам прыгадаў нарэшце, як тое было. Яны, ледзьве жывыя, стаяць перад цівуном, трываючы пякельны жар нахіленай да твараў паходні. А той мовіць: "Ваш сканаў сляпец?" — "Так". — "Куды йдзяце?" — "У Валожына". — "Там лепей, нібыта казалі?" — пасміхаецца. "Там чалавек жыве". — "Што? Радня?" — "Розныя людзі ёсць на свеце. І той чалавек — усім радня". — "А прытулак ён усім дасць? Я ж вам паруплю вечнае жытло — халоднае... Ды грэцца ў катоўні, думаю, не схочаце?" — "Там, пане цівун, усе будзем. А пакуль ногі трымаюць, трэба долі шукаць". — "Ваўку ногі патрэбны, каб даганяць ды рэзаць, ягняці — каб уцякаць, а вашы ногі — каб сабе магілу шукаць". — "Бог літасцівы, а чалавек..."

Ім зноў пашанцавала. Другі раз іх не зачапілі тыя, хто меў загад панішчыць усіх валацуг на дарогах княства. Цівун з памагатымі пакінулі іх няведама дзе, даючы прывідны шанц на ўратаванне:

— Чаго шукаеце, тое і знойдзеце, смерць. Пушчу вас на Лагойскім тракце. Але хлеба не дам — бо з'есці яго не паспееце, як вашы косці ваўкі расцягаюць. Абозы цяпер тут рэдка ходзяць, людзей вакол начыста павыбівалі. Ідзіце да свайго ча-ла-ве-ка. Калі дойдзеце...

Дзед, бедалага, не дачакаўся цуду — пасялян-вазніцаў. Адышоў ціха, не развітаўшыся. Знямог, відаць, страціў прытомнасць і ён, Варлам. Не памятае, як іх з Пінчуком, напаўжывых, напаткалі пры дарозе людзі і кінулі, як кулі, на рыпучыя калёсы, на мяхі са збожжам. І вось яны сярод людзей, ім цёпла і сытна. Але што прыхоўвае назаўтра зброддзівы лёс?

Раніцой начлежнікаў перахапілі вершнікі — багата апранутыя, добра ўзброеныя, на ўкормленых конях. Яны нядобра зацікавіліся староннімі ў абозе: парадкі на дарогах княства былі строгія.

Павялі Варлама ды Пінчука да вершніка, відаць, старшага, абшукаўшы папярэдне лахманы,ператрэсшы торбу.

— Прасветлы князь, у аднаго кахадзягі, акрамя галодных блох, нічога. А ў гэтага — кніга і сабачы ацынік.

— Кніга ў сляпца? — зацікавіўся той, каго павелічалі князем. — І што там?

— "Катэхізм" на тутэйшай мове, ліц-

# Было б здароўе...

***Калі мы віншуем кагосьці са святам, то абавязкова зычым яму здароўя. І гэта зразумела. Кажуць, што без здароўя і шчасця няма. Невыпадкова невядомыя дасціпнікі навыдумлялі — ці падгледзелі ў жыцці — столькі гісторый, звязаных з дактарамі і медыцынскай дапамогай увогуле. Значная частка такіх гісторый змешчана ў кнізе анекдотаў і гумарэсак "Было б здароўе" ("Беларусь", 1998, на рускай мове, укладальнік Г. Шэршань). Лічым, што ін'екцыя гумару ў нашыя няпростыя дні будзе не лішняй...***

❍

Бог прымае памерлых, і тут убягае нейкі мужчына. Агледзеўся па баках і збег. І так некалькі разоў. Здзіўлены Бог пытаецца ў анёла-сакратара:

— Хто ён такі?

— Ды гэта з рэанімацыі.

❍

Слухай, як тваёй жонцы ўдалося так хутка пахудзець?

— У яе зараз усе калорыі пралічаны. Сорак бубак "Цік-Так" на сняданак, семдзесят на абед і трыццаць на вячэру. Затое вага стабільная, дыханне свежае. Праўда, слабое...

❍

— Ты з'ехала з глузду! — крычыць бацька на дачку. — Азірніся! Краны цякуць, тынкоўка асыпаецца, тэлевізар барахліць, халадзільнік грэе, а ты сабралася замуж за паэта!

❍

— Доктар, штосьці ў мяне апошнім часам рукі моцна трасуцца.

— Шмат п'яце?

— Ды не, болей расплёскваю.

❍

— Доктар, паглядзіце маю свінню. Нешта яна стала есці блага.

— Даруйце, я ж не ветэрынар!

— А свінні якая розніца?

❍

Урач:

— Каб страўнік не балеў, выпівайце штодзень нашча шклянку цёплай вады.

Пацыент:

— Я так і раблю ўжо шмат гадоў запар. Толькі жонка называе гэта чаем...

❍

— Доктар, я ніяк не магу заснуць...

— Паспрабуйце лічыць да трох.

— Я і так лічу да паловы чацвёртага. Ніякага эфекту.

❍

— Доктар, у мяне баліць правая нага.

— Мабыць, гэта ад вашага ўзросту.

— Вы памыляецеся. Левай назе столькі ж гадоў, а яна мяне зусім не трывожыць.

❍

— Хворы! Тыя таблеткі, што я вам прапісаў, трэба прымяняць за 15 хвілін да галаўнога болю.

❍

Хірург-расіянін — пацыенту-ўкраінцу:

— Вам неабходна тэрміновая аперацыя!

— Ні ў якім разе! Я грамадзянін незалежнай дзяржавы і не дазволю ўмешвацца ў мае ўнутраныя справы!

❍

— Добра, — кажа хірург пацыенту, — я скажу вам усю праўду. Ваша рана на галаве была сур'ёзнай, але ампутацыі ўдалося пазбегнуць.

❍

— Мне здаецца, доктар, што ў майго мужа нейкае псіхічнае захворванне. Бывае, я гадзінамі яму штосьці гавару, а потым аказваецца, што ён нічога не чуў.

— Гэта не хвароба, — адказвае доктар. — Гэта талент.

❍

Псіхіятр:

— Дык вы кажаце, што плаціце падаткі з радасцю? І калі ў вас гэта пачалося?

❍

Пацыент — акулісту:

— Дапамажыце! Быў за мяжой — вочы разбегліся!

❍

Цяжкахворая жанчына ў аперацыйнай. Муж цікавіцца:

— Доктар, ці ёсць спадзяванне?

— Глядзячы на што вы спадзеяцеся.

❍

— Прычына вашай хваробы — алкаголь.

— Вы — першы доктар, які не звальвае ўсю віну на мяне!

❍

Псіхіятр — пацыенту:

— Ну што ж, раскажыце ўсё з самага пачатку.

— Калі ласка. Найперш я стварыў зямлю і неба...

❍

Урач не ў стане паставіць дыягназ і асцярожна пытаецца ў хворага:

— Скажыце, а раней такое было з вамі?

— Ну, так.

— Усё ясна. Значыць, зноў схапіла.

❍

— Ад маёй хваробы ў вас наўрад ці ёсць лекі, — уздыхнуў хворы.

— Будзьце спакойныя, — адказаў урач. — У нас столькі лекаў, што для некаторых пакуль яшчэ і хваробаў няма.

❍

Праседзеўшы тры гадзіны ў прыёмным пакоі, дзядок не вытрымаў і накіраваўся да выхаду:

— Лепей пайду дадому і памру сваёй смерцю...

❍

Даведаўшыся, што хворы лечыцца па кнігах, вышукваючы там рэцэпты, урач сказаў яму:

— Я знаю, што стане прычынай вашай смерці: друкарская памылка.

❍

Забінтаваны з галавы да ног пацыент, які трапіў у бальніцу пасля аўтамабільнай аварыі, угледзеў скрозь шчылінку ў бінтах дзяжурнага ўрача і ўзмаліўся:

— Доктар! Скажыце мне праўду, якой бы страшнай яна ні была: мой аўтамабіль моцна пашкоджаны?

❍

— Ведаеце, доктар, тое лякарства, што вы прапісалі ў мінулы раз, дапамагло.

— Ну што я магу сказаць? Бывае...

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

***Мікалай КЛАДАЎ,***

генеральны дырэктар ААТ "Белмастацкераміка"

***Чым-чым, а глінай мы багаты:***
***Яна, бадай, ля кожнай хаты.***
***Таму заўжды практычны***
***Кладаў***
***І не шукаў міфічных кладаў,***
***А глінаю тутэйшаю разжыўся***
***І з ёю ў рэшце рэшт...***
***азалаціўся!***

***Здаецца, падначаленыя рады:***
***Для іх жа Кладаў,***
***як сінонім клада!***
***Ён варты помніка —***
***не толькі з гліны,***
***А можа, й з больш***
***каштоўнай "сыравіны"?***

***Васіль ПРАТОЎСКІ,***

дырэктар ААТ "Мінскі фарфоравы завод"

***У вытворчасці фарфору***
***Дасць Васіль любому фору.***
***Любіць посуд ён са страсцю —***
***Нат не б'е яго на шчасце!***

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Любата: мышы выйшлі на дэманстрацыю з партрэтамі ката.

●

— Ну як там звонку, — пыталася ў корка самагонка, — усё яшчэ пра штучны спірт спрачаюцца?

●

— Нашто нам крылы, — разважаў слімак, — яно і без ног не вельмі каб не так. Карона — вось сапраўдная абарона.

●

— Коннік без галавы? Але ж верхавы. Як жа нам, безабаронным, пешым проці коннага?

●

Адзінства процілегласцей: птушкі звілі гняздо ў кумпале пудзіла.

●

— Калі ў кентаўраў былі продкі, дык гэта наш сімбіёз з малпаю, — ганарыліся коні.

●

Камбінацыя з трох пальцаў, дуля? А ці не прыстойней з двух — абаранак, нуль?

●

Кпілі з капелюша. "З галавы трэба кпіць", — крыўдзіўся капялюш. (Фінскае выслоўе).

●

— Не ўсё трэба ставіць на паток, — дакаралі цвікі малаток. — Вунь колькі браку з нашым братам — палавіна ўбілася.

*Наступны нумар тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выйдзе 4 чэрвеня.*



ЭПІГРАМЫ ЭДУАРДА АКУЛІНА | ШАРЖЫ АЛЕГА КАРПОВІЧА



***Уладзімір НЯКЛЯЕЎ***

***Калі ты паэт і калі ты рыбак —***
***ты мусіш сядзець над Прошчаю...***
***Хай рэдка клюе, не клюе нават хай —***
***душа не была б парожняю...***




***Аляксей ДУДАРАЎ***

***З радасных пачынаў — стаў Князем...***
***— Кім ты хочаш яшчэ, Ляксей?***
***— Я хацеў бы застацца вязнем —***
***вечным вязнем сваіх надзей.***



***Генадзь БУРАЎКІН***

***Гэта сам ён у роздуме пра Беларусь,***
***а не хтосьці з далёкай Лены...***
***Гэта ведама ўсім. Толькі — грызь...***
***Толькі — кусь...***
***Талент скрозь раздражняў гіенаў.***




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-7965**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3755
Нумар падпісаны ў друк 20.5.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2417 Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12